

Актыўныя Дубічы ➔3

# Ніва


ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Расспяваліся ў Крынках ➔ 5


http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 07 (2909) Год LVII | Беласток, 12 лютага 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




# Меншасці ў прэзідэнта

■ Тэкст і фота Ганна КАНДРАЦЮК

**— Калі ў свет пойдзе сігнал, што прэзідэнт нармальна ставіцца да нацыянальных меншасцей, гэта будзе таксама сігнал для нашых чыноўнікаў, каб яны сур'ёзна ставіліся да меншасцей, — такую думку выказаў Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў РП пасля сустрэчы з Браніславам Камароўскім.**

24 студзеня г.г., першы раз у пасляваеннай Польшчы, у прэзідэнцкім палацы з'явіліся ўсе афіцыйна прызнаныя меншасці краіны: немцы, украінцы, беларусы, літоўцы, славакі, чэхі, расіяне, яўрэі, ромы, кашубы, лэмкі, татары, караімы, армяне — разам больш за трыццаць чалавек. Хоць сама сустрэча мела характар візіту ветлівасці, меншасці належным чынам ацанілі жэст галавы дзяржавы.

— Для нас гэта знак, што прэзідэнт адкрыты на праблемы меншасці, — кажа Барбара Пякарская з аб'яднання АБ-БА. — Гэта паказвае, што нашы старанні і дзеянні важныя не толькі для нас саміх, што яны пазітыўна ўплываюць на грамадства.

Трэці прадстаўнік беларускай меншасці, старшыня БГКТ Ян Сычэўскі таксама адзначыў пазітыўны бок сустрэчы.

— Калі прэзідэнт звяртае ўвагу, што рэлігійныя, нацыянальныя і этнічныя меншасці з'яўляюцца для яго важным асяроддзем у Рэчы Паспалітай, калі ён гаворыць, што меншасці трэба шанаваць, прыкмячаць, гэта вельмі важна. З гэтага не вынікаюць канкрэты, але ў сімвалічным сэнсе гэта вельмі важна, каб меншасці адчувалі сябе больш камфортна ў краіне.

* * *

Яшчэ да таго, калі Браніслаў Камароўскі выступіў з навагоднім прамовай, ён асабіста паціснуў руку ўсім дэлегатам.

— Гляджу на вас вачыма чалавека, якога род звязаны з крэсамі ўсходнімі, — сказаў прэзідэнт. — Я сам — нашчадак той культурнай і грамадскай мазаікі, дзе побач сябе жылі розныя народы, культуры, розныя рэлігіі...

Браніслаў Камароўскі адзначыў важнасць такіх каштоўнасцей як тоеснасць, вернасць роднай мове, добрае суседства ў кантэксце Еўропы. Гэтыя ўніверсальныя вартасці заўсёды выспявалі ў канкрэтных сем'ях, канкрэтных асяроддзях, канкрэтных супольнасцях. Меншасці, якім заўсёды няпроста было знайсці сябе сярод большасці, найлепш ведалі цану добраму суседству і талерантнасці. Сваім існаваннем і дзеяннямі ўплывалі на лепшае сужыццё і культурнае развіццё цэлага грамадства.



— Нягледзячы на натуральныя і адначасова прыгожыя розніцы паміж намі, я хацеў усіх вас прытуліць да сэрца і жадаць задавальнення з жыцця разам і побач сябе ў звычлівым суседстве, зычыць усім незвычайнай штодзённасці тут і зараз. У нас усіх, нягледзячы на розныя нацыянальнасці і перакананні, адны мэты і адна супольнасць — Рэч Паспалітая, — адзначыў гаспадар сустрэчы.

Слова ад меншасцей сказаў Артур Яблонскі, сустаршыня Супольнай камісіі ўрада і нацыянальных ды этнічных меншасцей. Ён адзначыў, што на сёняшні дзень меншасці складаюць 3-4 адсоткі грамадства. Пасля 1989 года правы чалавека і нацыянальных ды этнічных меншасцей вызначаюць законы. Аднак некаторыя справы патрабуюць змен, напрыклад, адносіны дзяржаўных структур у дачыненні да ксенафабічных і расісцкіх праяў у грамадстве. На гэтую праблему раней не звярталі большай увагі. Цягам мінулага года такія здарэнні мелі месца на Падляшшы (у Ядвабным, Пунску, Беластоку, Орлі). Рашучы супраціў прэзідэнта і дзяржаўных структур нас абнадзейвае, што гэтыя праблемы будуць належна асветлены і асуджаны.

Артур Яблонскі заявіў таксама волю меншасцей, каб сустрэчы з прэзідэнтам і дзяржаўнымі чыноўнікамі мелі больш рабочы характар.

* * *

Пра бягучыя праблемы меншасцей вяліся размовы таксама і ў кулуарах палацавай сустрэчы.

— Меншасці ведаюць як карыстацца дэмакратыяй і законамі, — кажа Мірон Сыч, старшыня Сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей. — Мы ўмеем належным чынам ацаніць законы, якія рэальна нам спрыяюць. Аднак не заўсёды ўмеем абараніць свой патэнцыял і праекты. На сённяшні дзень існуе балючая праблема, калі ўсякія пазаўрадавыя арганізацыі і суполкі падшываюцца пад меншасці, ладзяць ім мерапрыемствы з меншаснымі элементамі і нібыта дзейнічаюць у іх карысць. А на самай справе яны карыстаюцца фінансамі меншасцей і нічога не прапануюць узамен. Мы не пагаджаемся на такія рашэнні. Меншасць сама найлепш ведае як лячыць свае траўмы і як будаваць свой імідж. Дзеянні меншасцей у значнай меры вядуцца на грамадскіх пачатках, таму кошт нашых мерапрыемстваў карысны для эканоміі дзяржавы. Для меншасцей карысць падвойная, бо грамадская ініцыятыва выдатна мацуе і аб'ядноўвае ў адно цэлае нашыя асяроддзі.

— Сістэма фінансавання меншасцей не да канца дасканалая, — пагаджаецца Артур Яблонскі, у прыватнасці прадстаўнік кашубскай этнічнай меншасці. — Праблема ў тым, што культурную палітыку ствараюць дзяржаўныя чыноўнікі без удзелу меншасцей. Праўда, нам удалося прапанаваць сваіх экспертаў, якія ад двух гадоў удзельнічаюць у гэтай камісіі, і яны могуць нешта падказаць. Аднак, паводле нас, лепш стварыць цэнтры на месцы, дзе жывуць меншасці, і каб мы самі выпрацоўвалі сваю культурную палітыку.

Падобнае меркаванне выказаў Яўген Вапа:

— Каб спрацавалі адносіны меншасці-большасць, неабходныя сустрэчы рабочага характару ў прысутнасці чыноўнікаў, якія вырашаюць справы, у месцы пражывання меншасцей. Сам візіт у прэзідэнта гэта добры і надзейны крок у напрамку паляпшэння гэтых адносін.

— Вядома, што прэзідэнт не вырашыць за нас нашых праблем, — кажа Барбара Пякарская. — Ад нас саміх залежыць ці захочам развязаць свае справы ці не, да нас належыць ініцыятыва што хочам зрабіць. Мы на практыцы гэта бачым, што калі нечага дабіваешся, хочаш, гэта магчыма рэалізаваць пры дапамозе дзяржаўных структур.





# Ігнараванне рэальнасці

*Тое, што адбываецца ў асяродку беларускай палітычнай апазіцыі апошнія тыдні іначай як тэатрам абсурду не назавеш. Нечаканa цэнтральным пытаннем рэчаіснасці стаў удзел у так званых „парламенцкіх выбарах" альбо байкот гэтай выбарчай кампаніі. Ідуць бясконцыя дыскусіі — удзельнічаць альбо не ўдзельнічаць. У гэтым пытанні ўжо падзяліліся. Далей ідзе наступная стадыя — адны спрачаюцца, як выстаўляць кандыдатаў і на якой стадыі ім „здымацца", іншыя — актыўна весці байкот альбо пасіўна.*

*Давайце спярша разбярэмся з тэрміналогіяй. У звычайнай еўрапейскай краіне палітычная апазіцыя — гэта тая сіла, якая імкнецца да ўлады шляхам законнага ўдзелу ў легітымных выбарах. У Беларусі сітуацыя зусім іншая — у нашай краіне і палітычныя партыі і недзяржаўныя арганізацыі разам складаюць агульную дэмакратычную супольнасць, якая мусіць змагацца за карэнную змену, пажадана мірным эвалюцыйным шляхам, не проста асобных элементаў улады, а ўсёй дзяржаўнай сістэмы. Што такое цяперашнія „выбары ў парламент"? Фальшыўка, пусты гук, мыльная бурбалка не вартая ніякай увагі. Ці можа хто стане сцвярджаць, што ў Беларусі нешта вырашае Вярхоўны Савет? Ці можа ёсць рэальны падзел галін улады, ці ўсталявана мясцовае самакіраванне? Таму відавочна, што з усіх выбарчых працэсаў увагі вартыя толькі кампаніі па выбарах прэзідэнта — толькі тады, у 2001, 2006, 2011 гадах, былі нейкія шанцы на змену сітуацыі і сэнс выяўляць актыўнасць. Так, змяніць сітуацыю да лепшага ў 2011 годзе не ўдалося, але беларусы прадэманстравалі ўсяму свету, што яны народ і выявілі тое, што сапраўды адбываецца ў краіне.*

*А можа дэмакратычнай апазіцыі цяпер няма куды прыкласці свае „бурлівыя" магутныя сілы? Дык вось жа яны — усе самыя страшныя праблемы і беды краіны — навідавоку. Папершае, палітычныя вязні, стан і сітуацыя з якімі не можа выклікаць ніякіх супярэчнасцей сярод апазіцыйных сіл. Па-другое, апазіцыя мусіць патрабаваць адмены ці хоць бы мараторыю на смяротнае пакаранне. Гэта пытанне жыцця і смерці ў прамым сэнсе гэтых слоў. І жыцця і смерці не толькі двух няшчасных хлопцаў, віна і роля якіх у здзяйсненні тэракту ў метро цалкам так і не была даказана і высветлена. Калі судовы канвеер такой смерці будзе запушчаны, спыніць яго тады стане яшчэ цяжэй. Урэшце відавочна і тое, што палітычнае змаганне ў Беларусі — гэта і змаганне найперш з расійскай гаспадарчай і ідэалагічнай экспансіяй, якая ўвесь час нарастае, пагражае суверэнітэту. Самае страшнае тут — пабудова чужой атамнай электрастанцыі. Супраць яе размяшчэння расійцамі ў Беларусі змагаюцца толькі адзінкі з дэмакратычнай супольнасці, іншыя ж праблемы „не бачаць", хаваючы галаву ў пясок. І ўрэшце татальная русіфікацыя, якая ажыццяўляецца рукамі мясцовых манкуртаў. Дайшло да таго, што ў абласных цэнтрах — Магілёве, Мінску, Гродне ва ўніверсітэтах скарачаюцца ці зусім зачыняюцца спецыяльнасці беларускай філалогіі. Вышэйшая гуманітарная адукацыя ў Беларусі проста ў катастрафічным стане. А ў Віцебску вырашылі ліквідаваць нават беларускамоўную частку бібліятэкі. Тут ужо і каментаваць язык не павернецца...*

*Словам, дзейсна прыкласціся дэмакратычнай апазіцыі ёсць да чаго, чынна папрацаваць ёсць над чым. Відавочныя рэчы і з'явы, якія напросту немагчыма ігнараваць! А калі ж рэальных сіл зусім няма, то трэба іх гуртаваць і рыхтавацца да сапраўднай справы. А тут столькі жарсцей, сварак, інтрыг вакол абсалютна пустога, стварэнне чарговых кааліцый пад псеўдавыбары, „шасцёрак", дзе і жук і жаба, і партыя, якая пазіцыянуе сябе як абсалютна прамаскоўская, і партыя з заявамі і прэтэнзіямі на праўную нацыянальную ідэю.*

*Сапраўднай дэмакратычнай апазіцыі нельга гуляць па чужых сцэнарах — усё роўна, дзе напісаных: у Маскве, Брусэлі, ці ў мінскім „чырвоным доме". Інакш скончыцца гэта сумна і нават ганебна.*

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Калі ты ўжо рашыў

*Калі ты ўжо рашыў жыць незалежна ад турбот і слёз, не навязвай нікому сваіх сумненняў ці варта так жыць.*

*Можна бурчэць, што беларусы бязвольна пагружаюцца ў абсурдзе лукашэнкаўскай улады. Але можна імі захапляцца за тое, што не страчваюць волі выжывання нават у такім абсурдным ладзе. Кашмарны, дарэчы, анекдоцік, які прывёў мне неацэнны Янак Туронак, здаецца, найбольш поўна паказвае беларускі характар. Вось калі ў няволю гітлераўцаў трапіў партызан Васька, тыя адразу павесілі яго ў роднай вёсцы, прыказваючы, каб боўтаўся на вяроўцы для напярэджання і ўвагі ўсіх нямецкіх ворагаў. Урэшце адрэзалі Ваську з пастронка і... „Ух!" — прастагнаў з болем вісельнік, падаючы на зямлю. „Дык ты жывы?" — уцешыліся людкове. А Васька ім кажа: „Ну, жыву. Спачатку, як толькі павіс, не скажу, цяжкавата было, ды ўсё ж неяк прывык...".*

*Хто быў той Васька? Герой, які мастацтва выжывання ўчыніў шэдэўрам чалавечага жыцця? Пасрэднасцю, якой прытрапіўся цудоўны шанц?*

*Біяграфіі большасці людзей ананімныя — нарадзіліся, працавалі, наладзілі менш ці больш моцныя сужонскія сувязі, спарадзілі дзяцей або і не, і памерлі. Ці хто-небудзь прыгадае іхнія мінулыя турботы, радасці, сумоты, малыя перамогі і вялікія паразы? Апрача найбліжэйшых, што захоўваюць памяць аб іх, таксама не заўжды дбайна, здаецца — ніхто. Колькі ёсць такіх намагільных камянёў, праўда, памечаных імем і прозвішчам, датай нараджэння і смерці — на самай справе пазбаўленых суб'ектыўнай канатацыі — таго каларытнага на меру індывідуальнага жыцця аповеду, які аднак на фоне гісторыі свету з'яўляецца ледзь зноскай у адным слове. А між берагамі нараджэння і смерці плавалі яны па бязмежжах экзістэнцыі, праходзілі неадкрытыя для іншых землі спазнання. Не ведаем, якія драмы яны перажывалі, якія дылемы, якія сумненні; не ведаем, якія адкрыцці, абуджэнні, прасвятленні, ганьбы і пакуты. Нічога не ведаем, апрача таго, што калісь выплылі яны з порта народзінаў і назаўжды прапалі ў імгле жыцця. Ведаем таксама без ніякіх сумненняў, што даплылі яны да свайго порта прызначэння. І яшчэ тое, што параўноўваем мяркуючы да нашага лёсу — што турбаваліся, як і мы; што тужылі, марылі, падалі духам, падымаліся і зноў падалі. І так, як і мы — самі для сябе яны выключныя, а для ўсіх іншых — ананімныя.*

*Аднак ананімнасць з'яўляецца своеасаблівым шэрым фонам, на якім праяўляецца каляровае жыццё кожнага чалавека. Яго контуры больш выразныя праз фон, але таксама і фон бачыцца дзякуючы яго контурам. Калі б на свеце жылі толькі героі, дык хто ж іх тады мог бы так называць, ацаніць іхнія дасягненні, зайздросціць іхняй славутасці або кіравацца іхнім добрым прыкладам? А якім быў бы свет, калі б усе людзі былі звычайныя ў сваім трывіяльным быгаванні?*

*„Беларус мае крэпкую, прапарцыянальную фігуру, з моцнымі плячыма і такімі ж нагамі; ступакі ў яго шырокія, падобна як і далоні, з сярэднімі пальцамі, здатнымі да ўсялякіх работ, таксама і далікатнейшай матэрыяльнасці, а асаблівы ў яго чэрап, вялікі дый круглы, з крутым лобам, сфалдаваным турботамі, кажа меркаваць, што чалавек з яго разборлівы, амбітны для роздумаў, таму і няхуткі да геройскіх уздымаў ды тым больш гвалтаў і пустапапарожніх спрэчак. Адным словам, гэта флегматычны тып". Гэтая характарыстыка — пяра ананімнага падарожніка XIX стагоддзя (на жаль, не высветліў я яго прозвішча) — мабыць не адлюстроўвае поўнасцю калектыўнага характару беларусаў, але як кожны абагульнены партрэт змяшчае ў сабе шмат інтуітыўна злоўленай праўды. Сапраўды, феномен беларускага народа праяўляецца ў яго незвычайным цярпенні, якое можа задзіўляць назіральніка, але ж і можа вывесці з нерваў. Адно другому не пярэчыць. Трэба быць унутры чагосьці, каб гэта адпаведна спазнаць. Ды на ніштo тыя веды, калі не хапае перспектывічнага падыходу, поглядзу збоку, звонку. Аднак і тое ніштo, калі гэта не цэласнае спазнанне. А такое магчымае тады, калі яго кампаненты зліваюцца ў адно. Ды тады гэта ўжо філасофія, а не жыццё. Яно кіруецца асобнай логікай. Але ж як гэта прымерваць да беларускай выносліваці?*

**Міраслаў ГРЫКА**

---

Вачыма еўрапейца

# Новая намесніца прэзідэнта



*Беласток, пасля тыдняў ваганняў беластоцкіх структур Грамадзянскай платформы, урэшце дачакаўся намесніка прэзідэнта. Нечакана стала ім прафесар Рэната Пшыгодзкая, дацэнт прадэкан аднаго з факультэтаў Універсітэта ў Беластоку і навуковы працаўнік Ягелонскага ўніверсітэта. Гэтае назначэнне, паводле г.зв. партыйнага ключа кіруючай Польшчай, Падляшшам і Беластокам ГП, было нейкай нечаканасцю. Пералічвалі раней, між іншым, што цяперашняга сенатара Тадэвуша Арлуковіча можа замяніць на ягонай ранейшай пасадзе падтрымліваны ім Цэзары Мелька, віцэ-дырэктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры. Гучала таксама м.інш. прозвішча Збігнева Нікітаровіча — шэфа кабінета падляшскага маршалка Яраслава Дважанскага. Беластоцкія палітыкі Платформы канчаткова вырашылі, аднак, іначай. Пасля назначэння мне было цікава, што можа сказаць новая намесніца прэзідэнта, якая — як яе папярэднік — будзе займацца м.інш. культурай і спортам, але і камунальнай маёмасцю; асвета перайшла да абавязкаў іншага намесніка прэзідэнта, хоць па прычыне яе прафесіі здавалася быць натуральным, што Рэната Пшыгодзкая будзе адказваць таксама за школьніцтва. З яе афіцыйных выказванняў вынікае, што займацца яна будзе жыллёвымі справамі і прамоцыяй горада. У адным з інтэрв'ю, на пытанне журналісткі, ці яе сэрца б'е бліжэй да Ягелоніі, ці музычнага агляду „Pozytywne Wibracje" з удзелам шматлікіх зорак, Рэната Пшыгодзкая загадкава адказвае: „Цяжка адназначна вызначыцца. Ды думаючы аб паспяховай прамоцыі горада, перш за ўсё я спрабавала б стварыць творчы калектыў, які будзе планаваць чарговыя крокі. Найлягчэйшым метадам з'яўляецца дарчэнне дзеянняў вонкі, але ж нейкія файныя ідэі могуць прыдумацца самімі чыноўнікамі. Я думаю, што запрашу перш за ўсё групу асоб, звязаных з культурай, спартыўнымі арганізацыямі для таго, каб супольна стварыць уяву прамоцыі горада (...). На маю думку тое, што сёння робім у розных абшарах, калі б было паслядоўнае, зінтэграванае, накіраванае на крыху больш медыйнае ўспрыняцце, прынесла б гораду нашмат большыя карысці, спалучаючы прыемнае з карысным". Узровень агульнасці гэтага і іншых выказванняў намесніцы прэзідэнта не дазваляе адназначна выказацца на тэму дэталёвых дзеянняў, за якія возьмецца яна ў галінах, якія ёй дaручылі, асабліва на абшары цікавячай мяне культуры, між іншым, культуры беларускай меншасці ў Беластоку і ці намесніца прэзідэнта падзяляе думку прэзідэнта горада Тадэвуша Трускалаўскага, які ў першай палове свайго першага тэрміну паўнамоцтваў казаў мне: „Не дзелім культуры на тую для меншасцей і для ўсіх грамадзян горада".*

*Тым часам, яшчэ да ўступлення Рэнаты Пшыгодзкай на пасаду, у беластоцкай Гарадской управе размеркавалі датацыі на сёлетнюю „рэалізацыю заданняў у галіне культуры, мастацтва, аховы здабыткаў культуры і нацыянальнай спадчыны". З ліку мерапрыемстваў, звязаных з беларускім асяроддзем, падтрымку магістрата атрымалі м.інш. XXXI Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі (100 тыс. зл.), XIX Фестываль беларускай бардаўскай і аўтарскай песні „Бардаўская восень" (14 тыс. зл.), Конкурс царкоўнай музыкі ў рамках „Дзён Беластока" (7 тыс. зл.), мастацкі конкурс для дзяцей дашкольнага ўзросту з нагоды 20-й гадавіны перанясення мошчаў св. мучаніка Гаўрыіла ў Беласток (3 тыс. зл.), Свята беларускай культуры (7 тыс. зл.). Што цікавае, „Бардаўская восень", арганізаваная Звязам беларускай моладзі, ці Свята беларускай культуры, рыхтаванае БГКТ, атрымалі меншую падтрымку чым, напрыклад, Іспанскія дні ў Беластоку (17 тысяч злотых).*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Рыхтуецца манаграфія Дубіцкага прыхода

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

Толькі некаторыя праваслаўныя прыходы на Беласточчыне могуць пахваліцца ім прысвечанымі манаграфіямі. Да іх ліку ў хуткім часе павінен далучыцца прыход у Дубічах-Царкоўных. У галіне дакументавання гісторыі праваслаўных парафій найбольш заслужанымі з'яўляюцца настаяцель Рыбалаўскага прыхода, доктар, мітрафорны протаіерэй Рыгор Сасна і матушка Антаніна Троц-Сасна, якім дапамагае студзіводскі гісторык Дарафей Фіёнік. У выпадку „Манаграфіі прыхода Дубічы-Царкоўныя" галоўны матэрыял для рыхтаванай публікацыі сабрала матушка Ева Аўксеціюк, якая раней напісала магістэрскую працу па гісторыі свайго прыхода. Дапамагаў ёй перш за ўсё настаяцель Дубіцкай парафіі протаіерэй Славамір Аўксеціюк. 16 снежня мінулага года з дакладам па гісторыі Дубіцкай зямлі выступіў у Грабаўцы Дарафей Фіёнік. Некалькі гадоў таму ў Дубічах быў зачытаны даклад прафесара Алега Латышонка аб дзейнасці ўраджэнцаў Дубіцкай зямлі на ніве беларускай культуры і ў галіне палітыкі. Аднак для завяршэння манаграфіі патрэбныя яшчэ ўспаміны мясцовага насельніцтва. Задача запісаць успаміны была даручана перш за ўсё вучням Комплексу школ у Дубічах-Царкоўных. З мэтай падрыхтоўкі моладзі да згаданай задачы 25 і 26 студзеня ў Гмінным асяродку культуры, спорту і адпачынку ў Дубічах былі наладжаны журналісцкія майстар-класы, якія вяла журналістка Радыё „Рацыя" Наталля Герасімюк. У час зімовых канікулаў каля 20 маладых асоб мелі магчымасць пазнаёміцца з працай журналіста і патрабаваннямі, неабходнымі ў гэтай прафесіі. Пасля моладзь у рамках практыкаванняў праводзіла размовы з жыхарамі з мэтай сабраць матэрыял аб жыцці прыхода ў мінулым і цяпер.



Царква ў Дубічах-Царкоўных

### Здаўна чаканая публікацыя

— Мы ўжо ад нейкага часу хацелі пакінуць памятку па нашым пакаленні і выдаць манаграфію Дубіцкага прыхода. Дзеля гэтага звярнуліся мы да айца Грыгорыя Сасны, а ён параіў нам падшукаць студэнта, каб той заняўся зборам матэрыялаў аб нашым прыходзе. Якраз тады мая матушка Ева вучылася ў Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі і ёй было дазволена пісаць магістэрскую працу аб нашай парафіі. Пазней некальکі разоў пісалі мы праекты на атрыманне сродкаў на рэалізацыю нашай задумы — выданне манаграфіі прыхода. Цяпер атрымалася магчымасць здзейсніць наш праект, — сказаў протаіерэй Славамір Аўксеціюк. — На падрыхтоўку і выданне манаграфіі маем надзею атрымаць сродкі ў рамках „Праграмы развіцця вясковых тэрыторый 2007-2013".

— У маёй магістэрскай працы галоўную ўвагу я звярнула на гісторыю прыхода і паасобных мясцовасцей, карыстаючыся ў галоўным публікацыяй айца Грыгорыя Сасны, архіўнымі матэрыяламі і ўспамінамі найстарэйшых прыхаджан. У маёй магістэрскай працы былі і будуць у манаграфіі інфармацыі аб сучасным жыцці прыхода, — сказала матушка Ева Аўксеціюк, аўтарка манаграфіі, якую яна рыхтуе пад рэдакцыяй Анны Радзюкевіч.

— Мы здаўна чакалі манаграфіі Дубіцкага прыхода. У нашай бібліятэцы знаходзіцца толькі копія магістэрскай працы Славаміра Куліка (дубіцкага настаўніка і заадно выхадца з Грабаўца — А. М.) аб Дубіцкай зямлі і невялікія выданні, якія выходзілі пры нагодзе рэалізацыі розных праектаў. У іх змешчана толькі агульная інфармацыя, а нам патрэбнае больш грунтоўнае выданне аб нашай гміне, — сказала гмінная бібліятэкарка Міраслава Семянюк-Мараўская.

Асобы зацікаўленыя праектам лічаць, што ў манаграфіі каштоўнымі будуць архіўныя здымкі, якіх даволі многа ўдалося сабраць у жыхароў Дубіцкай парафіі, пачынаючы з часоў бежанства і дваццатых гадоў мінулага стагоддзя. Ужо вядома, што ў выданні будуць таксама змешчаны цікавыя аповеды мясцовых людзей і невядомыя для многіх прыхаджан весткі.

— Напрыклад, з нашай манаграфіі можна будзе даведацца, што ў XIX стагоддзі ў хатах сялян Дубіч-Царкоўных жылі вужы, з якімі гулялі дзеці, а задачай якіх было лавіць мышэй, — расказаў некаторыя інфармацыі з будучага выдання айцец Славамір Аўксеціюк. — У час пажару ў 1941 годзе ў вёсцы ацалела толькі 12 дамоў. Тады ў 4 залах мясцовай школы сталі начаваць людзі ажно з 20 сем'яў і каб спаць, ляжалі адзін каля другога, покатам. Калі ў вайну ішло змаганне паміж савецкімі і нямецкімі войскамі, савецкі назіральнік спачатку знаходзіўся на званіцы, а пасля яе спалення, на дрэве, на могілках, якія моцна абстрэльвалі немцы. Зараз, калі мы высякаем дрэвы на могілках, знаходзім асколкі з часу вайны. Нашаму прыходу амаль 500 гадоў і гэта добрая нагода, каб шырэй апісаць яго.

### Вучні будуць збіраць матэрыял для манаграфіі

Вучні на журналісцкія майстар-класы сабраліся ў памяшканні Гміннага асяродка культуры, дзе, між іншым, вучыліся праводзіць размовы з жыхарамі, каб сабраць як мага найбольш матэрыялу датычнага Дубіцкага прыхода.

— Моладзь у час заняткаў знаёміцца з журналісцкай працай. Перш за ўсё я рыхтую іх да працы з мясцовымі людзьмі, каб маглі сабраць успаміны да рыхтаванай да выдання манаграфіі Дубіцкага прыхода. Маладыя людзі вучацца працаваць з мікрафонам, правільна ставіць пытанні, здабываць давер у суразмоўцаў і так гутарыць з імі, каб не абмінуць нічога важнага, — сказала журналістка Радыё „Рацыя" Наталля Герасімюк, якая вяла заняткі з вучнямі Падставовай школы і Гімназіі ў Дубічах-Царкоўных, што жывуць у Дубічах, Ягадніках, Елянцы, Вэрстоку і Вітаве. Удзельнічала ў майстар-класах таксама вучаніца трэцяга класа Гайнаўскага белліцэя, якую запрасіла бібліятэкарка Міраслава Семянюк-Мараўская.

— Трэба спачатку сказаць „чыя ты", паведамляючы, як называюць бацькоў у вёсцы, — пачуў я ў час заняткаў, — бо прозвішчы могуць паўтарацца.

— Заняткі цікавыя, бо можам тут пагаварыць па-свойму і навучыцца так ставіць пытанні суразмоўцам, каб як найбольш ад іх даведацца, — сказалі Анна Галёнка і Дамініка Карпюк.

— Мы павінны так ставіць пытанні, каб наш суразмоўца не мог адказаць на іх коратка, каб мусіў выказацца абшырна і дэталёва, — гаварыла Марта Федарук.

— Спадарыня Наталля Герасімюк цікава вядзе заняткі, многа расказвае, многаму стараецца нас навучыць і добра, што заахвочвае нас да актыўнасці, — гаварылі Агнешка Старасельнік і Юстына Хадакоўская.

Дзяўчаты дадалі яшчэ, што першы раз вучацца журналісцкай працы і яна ім падабаецца. Аднак не настолькі, каб марыць стаць журналістамі. Мае суразмоўцы сказалі таксама, што ў школе чытаюць „Ніву", ахвотна рашаюць адгаданкі, чытаюць „Зорку", гістарычныя і іншыя тэксты, якія тычацца іх рэгіёна.

— Зараз апошні час, калі яшчэ можна запісаць успаміны найстарэйшых людзей. Калі мы не запішам таго, што яны памятаюць, яно загіне, — сказала бібліятэкарка Міраслава Семянюк-Мараўская, якая наглядала за заняткамі ў асяродку культуры. Некаторыя вучні зрабілі ўжо генеалагічныя дрэвы сваіх сем'яў, а іншыя думаюць зрабіць падобнае.

Пасля заняткаў па тэорыі, прыйшоў час на практыку. Вучні запрасілі ў асяродак культуры Зіну Гаўрылюк, якая распавяла пра Дубіцкі прыход, жыццё людзей у мінулым, пра вясельныя, хрысціянскія і іншыя абрады.

— Паміж намі жывуць таксама людзі іншых канфесій. Покі паміж намі не было сварак, а жывем супольна спакойна, — гаварыла спадарыня Зіна Гаўрылюк.

Чарговым суразмоўцам вучняў была Люцына Петручук, старшыня Аб'яднання развіцця Дубіцкай зямлі „Бахматы" з Грабаўца. Сядзіба аб'яднання знаходзіцца ў вясковай святліцы ў Грабаўцы, у асобным пакойчыку, абсталяваным мэбляй, якую прыдбалі дзякуючы аднаму з праектаў. Купілі сабе таксама камп'ютар і прынтар, з дапамогай якіх пішуць чарговыя праекты і выступаюць за чарговыя сродкі на сваю дзейнасць на тэрыторыі Дубіцкай праваслаўнай парафіі.

— Зараз нашы людзі больш сядзяць дома і мы, жанчыны з Грабаўца, сабраліся, каб нешта супольна зрабіць. Чалавек створаны жыць у грамадстве, а ў адзінстве — сіла. Спачатку мы заснавалі нефармальную групу „Задра", дзякуючы якой распачалі грамадскую дзейнасць у нашым сяле. Няпоўныя два гады таму мы ў Грабаўцы арганізавалі Аб'яднанне развіцця Дубіцкай зямлі „Бахматы", да якога належыць 21 асоба, перш за ўсё жанчыны (яны састаўляюць управу аб'яднання), хаця ёсць і 4 мужчыны. Ідэй у нас многа. Займаліся мы гімнастыкай, ладзілі экскурсіі, арганізавалі конкурс на прыгожыя агародчыкі і ладзілі сустрэчы нашым жанчынам. Аднак не заўсёды маем сродкі на больш маштабную дзейнасць. Зараз з дапамогай Еўрарэгіёна „Белавежская пушча" хочам выдаць дыск з музыкай нашага маладзёжнага калектыву „Струмок", — расказала, адказваючы на пытанні вучняў, Люцына Петручук. — Збіраемся мы перш за ўсё ў жаночай кампаніі, каб інакш чым штодзень правесці час, паразмаўляць аб сваіх справах і аб тым, што для вёскі і наваколля можна было б зрабіць.

Апрача Дубіцкага прыхода праект выдання манаграфіі дапамагаюць рэалізаваць Комплекс школ, Гмінны асяродак культуры, спорту і адпачынку ды Гмінная бібліятэка ў Дубічах-Царкоўных. Прадбачваецца, што манаграфія выйдзе з друку летам і тады адбудзецца яе прэзентацыя.



Удзельнікі майстар-класаў з жыхаркай Дубіч Зінай Гаўрылюк і журналісткай Наталляй Герасімюк

## „Гвязда і калядка” ў Нараўцы



20 студзеня г.г. у Нараўцы адбыўся V Гмінны агляд калядоўшчыкаў і гвяздаў „Гвязда і калядка”. Удзельнічалі ў ім салісты, дуэты, трыо, квартэты і калектывы з Нараўчанскай, Белавежскай, Гайнаўскай і Міхалоўскай гмін ды з Беластока. Некаторыя з іх выйшлі на сцэну ў цёплай зімовай вопратцы, у кажухах з вялікімі каўнярамі і доўгімі поламі. Спявалі калядкі колішнія і новыя. Можна было паслухаць розных манер іх выканання на беларускай і польскай мовах.

Сярод наймалодшых каляднікаў першае месца заняў Клуб дашкольніка ў Нараўцы.

У катэгорыі старэйшых дзяцей найлепшыя былі стараляўкоўскія „Цаглінкачкі” і дуэт гімназістаў Паўліна Нікалаюк і Давід Адамюк з Нараўкі.

У катэгорыі маладзёжных калектываў журы першае месца прызначыла „Ручайку” з Белавежскага асяродка культуры ў Белавежы.

У катэгорыі дарослых першае раўнапраўнае месца занялі фальклорны калектыў з Махнатага і хор Свята-Мікалаеўскага праваслаўнага прыхода ў Нараўцы.

Выканаўцы калядак, якія занялі першае, другое і трэцяе месцы, атрымалі дыпломы і грашовыя ўзнагароды.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Таварыства „Ятрышнік”

Жыхары Лешукоў і Міхнаўкі (Нараўчанская гміна) заснавалі Таварыства жыхароў „Ятрышнік”. Галоўная мэта яго дзейнасці — культываванне традыцыі тутэйшага рэгіёна ды актывізацыя і інтэграцыя мясцовага грамадства. Таварыства мае сваю сядзібу ў святліцы ў Міхнаўцы. Налічвае 25 членаў. У склад праўлення ўваходзяць Альжбета Кунцэвіч (старшыня), Галена Рэент (намеснік старшыні) і Рыгор Зямінскі (скарбнік). Гадавы членскі ўзнос — 10 злотых.

Першым культурна-забаўляльным мерапрыемствам быў навагодні баль 13 студзеня ў святліцы ў Міхнаўцы. Новы год сустракалі на ім 22 пары.

Жыхары Лешукоў арганізавалі экскурсію ў Галерэю мастацтва імя Тамары Саланевіч у Нараўцы. Удзельнікі экскурсіі з цікаўнасцю агледзелі выставу карцін, а на іх пейзажы Нараўчанскай зямлі. У галерэі былі яны ўпершыню, хаця яна знаходзіцца ўсяго 9 км ад Лешукоў і Міхнаўкі.

Таварыства жыхароў „Ятрышнік” мае багаты план дзейнасці. Неўзабаве спадарыня Зіна Рубчэўская з Новага Ляўкова пакажа як пяклі хлеб у хатняй печы, як білі масла ў маслабойцы ды як рабілі сыр. Спадарыня Ірэна Ігнацюк са Старога Ляўкова распавядзе і пакажа традыцыйнае ткацтва, пасадзіць жанчын за кросны. Хто яшчэ ўмее, будзе прасці кудзелю калаўротам. У плане — наведанне агратурыстычнай гаспадаркі „Бора-Здруй” у Ляўкове.

**(яц)**



■ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Люстрацыйны абманшчык? (9)

**Нанова і перад іншым чым папярэдне судзейскім складам пачаўся перад Акруговым судом у Беластоку працэс у справе люстрацыйнага абману, у якім падляшскага дэпутата Яўгена Чыквіна (СЛД) падаў у суд беластоцкі аддзел Інстытута нацыянальнай памяці (ІНП). Справа вярнулася да паўторнага разгляду па заяве ІНП пасля рашэння Апеляцыйнага суда. Зараз перад пачаткам чарговага тура працэса дэпутат Чыквін сказаў журналістам: „На інтэрнэтных старонках паявіўся ўпіс: „Zniszczyć kacapa z Orli” [дэпутат Чыквін родам з гэтай мясцовасці — М. Х.]. „Знішчожванне кацапа” працягваецца Інстытутам нацыянальнай памяці. ІНП дапусціўся ў маёй справе не толькі маніпуляцый, але і парушэння некалькіх законаў”.**

Прыгадаем, што ІНП абвінавачвае Яўгена Чыквіна ў тым, што ў 1980-я гады мінулага стагоддзя — галоўным чынам па прычыне старшынявання беластоцкаму аддзелу Хрысціянскага грамадскага згуртавання (ХГЗ) — быў тайным і свядомым супрацоўнікам Службы бяспекі, хоць у актах няма даты, якая пацвярджала б змены СБ з катэгорыі „забеспячэнне” на „кандыдат на сакрэтнага супрацоўніка”, якім, на думку ІНП, меў ён быць. У лістападзе 1983 г. меў быць ён перакваліфікаваны на сакрэтнага супрацоўніка з псеўданімам „Ізыдар”, а пасля „Вільгельм”. Па прычыне „непрыдатнасці” знялі яго з аператыўнага ўліку ў верасні 1989 г. Яўген Чыквін запярэчвае супрацоўніцтву і некалькі разоў ужо ў час разбору прыгадваў, што шматразова падаваў люстрацыйныя заявы і яны не аспрэчваліся і што выйграў працэс за зняшчэнне яго ў г.зв. „спіску Мацярэвіча”.

У час першага разбору другога тура працэсу перад Акруговым судом дэпутат даваў паказанні:

— Усе дакументы былі зроблены СБ без майго ведама, свядомасці і, відома, без маёй згоды (...). Згодна закону Вярхоўнага суда, такія працэсы маюць рэпрэсійны характар. Вядома, віноўны ў тым закон, прыняты часткай польскага парламента. Гэтая частка кіруецца ідэалогіяй, звязанай з містыфікацыяй рэчаіснасці, бо толькі містыфікаваная рэчаіснасць дазваляе на падзел: мы — яны, свае — ворагі. Для гэтых людзей не існуе паняцце супольнага дабра. Хто не з імі, мусіць быць знішчожаны маральна, злінчаваны або прынамсі адсунуты ад любога ўплыву на рэчаіснасць.

Пры нагодзе папракнуў ІНП:

— ІНП створаны быў для таго, каб любыя беззаконныя дзеянні дзяржавы ў адносінах да грамадзян не былі забыты. Стаў ён установай, якая ўключаецца ў бягучую палітычную барацьбу. Наладжвае паляванні на людзей. У маёй справе дэлегатура ІНП у Беластоку не толькі дапусцілася маніпуляцыі і ўвядзення суда ў зман. У заяве пані пракурор [Агнешкі Русіловіч з ІНП — М. Х.] апынуліся заявы, што я быў „zadaniowy”. Я прасіў, каб пані пракурор паказала хоць бы адно заданне, а яна нават слова не сказала на пацвярджэнне свайго аргумента.

У ацэнцы дэпутата Чыквіна беластоцкі ІНП у яго справе крайне тэндэнцыйны і дапусціўся парушэння трох законаў, датычных знішчання і стварання новых дакументаў з новым зместам, адстунасці ананімізацыі ўражлівых даных (інфармацыі аб веравызнанні і нацыянальнасці асоб пералічаных у пракурорскіх актах) ды выяўлення прозвішчаў асоб рэгістраваных СБ з іх псеўданімамі („актуальных палітыкаў і дзеячаў беларускай меншасці, якія з гэтай справай не маюць нічога супольнага”). Тут рытарычна спытаўся:

— Нашто мне ведаць якую папку меў біскуп Кісель? [былы іерарх беластоцкага Каталіцкага касцёла — М. Х.].

Дадаў:

— Сёння веданне, што СБ рэгістравала людзей без іх ведама і згоды, паўсюднае. Асаблівую адвольнасць мелі тут функцыянеры IV аддзела, які распрацоўваў Касцёлы і канфесійныя асяроддзі.

Спаслаўся на факт, што м.інш. архіепіскапаў Мірана і Іерамію ІНП паінфармаваў, што былі зарэгістраваныя СБ без іх ведама і згоды, хоць раней праз пасрэдніцтва СМІ былі — побач іншых іерархаў польскай Царквы — абвінавачаны ў тайным і свядомым супрацоўніцтве. Аб функцыянерах СБ успомніў:

— ІНП стварае з іх аўтарытэты, хоць былі ў злачыннай арганізацыі, і гэта ад іх залежыць мой лёс.

Яўген Чыквін меў таксама жаль, што пракурор Русіловіч не пакваплілася растлумачыць няпраўды, якія апынуліся асабліва ў адным, быццам бы кампраметуючым яго, дакуменце, а магла б у тым дапамагчы, як пералічыў, хаця б Міраслаў М., які прымаў гады таму ўдзел у працах Сусветнай рады касцёлаў і а. Уладзімір М., былы шматгадовы старшыня „Сіндэсмаса”:

— Пракуроры прабуюць ўверагодніць, што эсбекі пісалі праўду. Стварэнне інсінуацый не абгрунтаваных верагоднымі доказамі схіляе мяне да пераканання, што маем дачыненне з палітычным працэсам (...). Пры сітуацыі, якая ўзнікла ў Беластоку з актывізацыяй крайніх нацыяналістычных і расісцкіх груп, абражаюць і паклёпнічаюць не толькі на мяне і маю сям'ю, але і на ўсю беларускую грамадскасць, якую я прадстаўляю ў Сейме.

Пасля гадзіны тлумачэнняў дэпутата Чыквіна, новы ў гэтай справе старшыня судзейскага складу Славамір Валосік (вядомы асаблівай скрупулёзнасцю), амаль паўтары гадзіны чытаў яго тлумачэнні з папярэдняга судовага тура. У той час чакалі на калідоры два сведкі, зноў пакліканыя судом. Былі гэта два функцыянеры беластоцкай СБ у васьмідзесятыя гады — „вядучы” Яўгена Чыквіна працаўнік IV аддзела 58-гадовы Аляксандр К. (служыў у СБ у 1979-1989 гг.; пры канцы службы быў начальнікам секцыі) ды 70-гадовы Збігнеў З., у васьмідзесятыя гады начальнік IV аддзела. Абодва не далі згоды на інтэрв'ю „Ніве”.

— Не хачу, таму што пасля 1989 г. я перайшоў псіхалагічную тэрапію, каб дастасавацца да новага часу і не хачу вяртацца да мінулага, — тлумачыў Аляксандр К., сёння працаўнік Міністэрства юстыцыі (выхаваўца ў выпраўленчай калоніі), вядомы беластоцкі біяэнергатэрапеўт.

У час разбору — падобна як і папярэдне — паказаў, што ніколі яму не ўдалося ад Яўгена Чыквіна, калі яго „вёў”, дастаць якіх-небудзь інфармацый аператыўнага характару, агульна даступных, ды не бачыў ніякага падпісанага ім дакумента, а асабліва дэкларацыі аб супрацоўніцтве з СБ.

Яшчэ перад разборам пракурор Русіловіч не скрывала:

— Не маем новых доказаў у гэтай справе.

Папярэдні працэс перад Акруговым судом кончыўся сентэнцыяй: „Дэпутат Яўген Чыквін падаў сапраўдную люстрацыйную заяву”. Працягваўся ён амаль два гады. Наступны разбор адбудзецца аж 19 сакавіка.

# А ў Крынках тры крынічанькі - Надзея, Іаанна і Галена

Тэкст і фома Міры ЛУКШЫ






Злева: Галена Пухальская, Іаанна Чабан і Надзея Алекша

**Традыцыйныя беларускія песні ў выкананні дуэта „Зараніца” прагучалі ў Доме культуры ў Крынках у марозны „мясаедны” вечар 3 лютага. Іаанна Чабан і Галена Пухальская выступілі з новым музычным праектам „Надзея — музычны фальклор вёскі Піражкі”. Дуэт „Зараніца” збірае і апрацоўвае песні ваколіц Крынак і паўночнага Падляшша.**

На сцэне крынкаўскай сінагогі спявала разам з імі гераіня дыска — Надзея Алекша з вёскі Піражкі. На кружэлку трапіла 17 песень, характэрных для ўсёй Сакольшчыны. Іаанна Чабан: „Гэтыя песні прывозілі з бежанства за часамі Расійскай імперыі, пад Польшчай вучылі польскія песні, пасля былі саветы, якія вучылі савецкім песням. Я маю кніжачкі з запісамі старэйшых людзей, дзе ёсць нават нямецкія песні, якія вучылі падчас другой сусветнай вайны. Гістарычныя падзеі ўплывалі на рэпертуар, з гэтага складаецца спецыфічная культура гэтага рэгіёна. Калісь вёска — гэта была адна вялікая сям'я. Маецца так, як гэтыя старэйшыя жанчыны гавораць — калісь грошай не было, бедна жылося, але весела было. Цяпер грошы ёсць, а ніхто з нікім не гаворыць... І вёскі ўжо абмерлі, мала хто ўжо і застаўся. Час неспрыяльны для захоўвання традыцыі. Мы далей будзем апрацоўваць песні, якія назбіралі і будзем збіраць. Дзякаваць Богу, дасталі мы датацыі на нейкія праекты. У сакавіку рэалізуем „валоканне”, пачынаем першы выпуск фестывалю. Ужо працуем над чарговым дыскам — Андрэй Гарбуз з „Сакольшчыны” сядзіць у архівах, у старых кнігах, і падсунуў нам вельмі цікавую ідэю: архіўныя матэрыялы з пачатку XIX ст., песні са шляхецкай вёскі Гарчакі, што на ўсход ад Саколкі. Вывучаем цяпер гэтыя песні, вельмі цікавыя, якіх я раней ніколі не чула, на такой польска-беларускай „трасянцы”: жыхары Гарчакоў, паводле апісання кнігі, дома гаварылі па-беларуску, а ў большай кампаніі, на мерапрыемствах стараліся гаварыць па-польску.

— Я цяпер не такая ўжо спраўная, — кажа 90-гадовая Надзея Алекша з Піражкоў. — Але ўсё жыццё я — з песняй. На кожнае слова ёсць песня. Гэтыя ўсе песні ў мяне ў галаве. Яшчэ іх мой тата спяваў. Я і ў хоры спявала, у царкве ўсё жыццё, і святыя песні ведаю, і пахаронныя, і голя-голя, і школьныя... Тата нам, малым, песні спяваў — ляжам, ногі задзярэм, тата адпачываючы спявае... У мяне моро песняў! На кожнае слова маю і песні, і прыпеўкі. Часам сабе мармычу, я ж старая... Хай ідуць мае песні ў свет, добра, што дзяўчаты іх сабралі. Прыходзілі да мяне і хлопцы — адзін з Гайнаўкі, другі з Беластока, іншыя з-пад Янава, прасілі, каб ім песні паспяваць. Нацягалі яны гэтых песень! Прыедзеце, і вам заспяваю. Я жыву ў Піражках, хата 65. Сёння мой мужык казаў: чаго паедзеш у такі мароз у тыя Крынкі, старая! Але ж — да людзей! Добра, сын прыехаў з Саколкі самаходам, і дочкі з Беластока... Мароз такі велькі!

Пра традыцыі мясаеда расказвалі Марыя Кулакоўская (1932 г. нараджэння) родам з Крушынян і Люба Наўмовіч (1946 г. нараджэння) з Азяран, на прэзентацыі архіўных здымкаў святой памяці Віталя Сідарава і Любы Гузоўскай, Любы Адамік-Наўмовіч, Яўгена Наўмовіча і Зінаіды Кішкель.

— Перыяд ад Крашчэння да пачатку посту называўся „мясаед”, — успамінала Марыя Кулакоўская ў час экспедыцыі дзяўчат з „Зараніцы” два тыдні таму. — Танцавалі, гулялі, жаніліся... Забава, гулянка была пераважна ў нядзелі, часам ад поўдня начнуць, часам калі пачынае цямнець, з гарманістам. Быў гарманіст Алесь, родам з Лапіч, і сын яго Франак іграў, а жылі яны ў Крушынянах. Наймалі гарманістаў і з суседніх вёсак. Быў важны музыкант аж са Свіслачан, гралі Дудзінскія з Лапіч — той што быў пекарам — на гармоніі, і яго бацька — на скрыпцы, і з Дзіневіч загранічнік, Пучкелевічы-„Сінюцікі” з Беларусі — адзін на гармоніі, другі на скрыпцы... Хлопец з Ласінян іграў, Толік Дарошка, калі выпрасталі граніцу і Ласіняны адышлі пад Польшчу... І з Рудакоў іграў адзін... Паедуць хлопцы,ноймуць музыку — на складчыну. Абы музыкант зайграў — усе ёсць! І жанатыя ішлі, і бабы сядзелі ўсю ноч, аглядалі. Было весела! Да поўначы, да 2 гадзіны, як калі. Танцавалі вальс, польку, факстрот, абэрак, кракавяк, каробачку, лысага, аляксандраўскага, страданне...

— Гулялі! — падтакнула Люба Наўмовіч. — Ды не так часта, бо... хаты нішчыліся! Быў свой музыкант, але хлопцы гадзілі і з іншых мясцовасцей. Іграў між іншым Франё Чарнецкі, Ясё Дудзінскі з Лапіч, што яго звалі чамусь „Гарачыя макароны”, і Зюта Чарнецкі з Малых Азяран... Памятаю, тады ў Аніські танцавалі, кармілі кожнага музыканта. Кажа Аніська: „Ладуй, ладуй, Зюта, мяса, што ты ўваліўся ў капусту!”. Усе мы смяяліся. Елі ўсё тлуста, а ў чацвер тым больш. Нічога там спецыяльнага не было — мяса, капуста, рабрынкі, галёнка, бабка з кумпяком, скваркамі, тлуста бульба ў рандэльку з чубам, з прыгаркамі... У-у-у, смачнае было...

Смачны быў і мясаедны пачастунак на мерапрыемстве — салодкі і мясны. Пачостка працягвалася пад музыку з дыска і жывую — далучыўся і Збышак Насядка, шэф фестывалю „Старыя песні — маладыя галасы”, праспявалі некалькі праваслаўных калядак.

Спонсарамі мясаеднай імпрэзы былі старшыня Гарадской рады Аліцыя Трызна, кіраўніцтва крамы „Цэнтрум” Анна Фонфара і Галіна Фонфара, крама Галіны Міклашэвіч, фірма „Гэпі” — Веслаў Пухальскі, гандлёва-вытворчы кааператыў „Крынка”, дырэкцыя Гмінная дома культуры ў Крынках. Выданне дыска падтрымала Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства.

## IV Конкурс „Пазнай Беларусь”

Конкурс „Пазнай Беларусь” быў аб'яўлены Культурным цэнтрам Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча ў першы раз на пачатку 2009 года для моладзі, пражываючай у Польшчы, зацікаўленай гісторыяй і культурай Беларусі, яе сучасным жыццём, актыўным творчым асобам. Мэтай конкурсу з'яўляецца папулярызацыя сярод маладога пакалення беларусаў у Польшчы ведаў пра культуру, гісторыю і сучаснасць Беларусі, садзейнічанне рэалізацыі творчага патэнцыялу дзяцей і моладзі беларускай меншасці ў Польшчы, зацікаўленне грамадскасці праблемай захавання нацыянальнай самасвядомасці сярод беларускай моладзі ў Польшчы. У конкурсе прымаюць удзел вучні, творчыя калектывы, гурткі асветных і культурных устаноў Польшчы, самастойна або пад кіраўніцтвам апекуна-настаўніка, ва ўзросце ад 5 да 19 гадоў, не толькі вывучаючыя беларускую мову. Да ўдзелу ў конкурсе прымаюцца працы не толькі на беларускай мове. Адзначаецца арыгінальнасць і творчы падыход да афармлення. Намінацыі конкурсу маюць чатыры ўзроставыя катэгорыі: ад 5 да 7 гадоў, ад 8 да 12 гадоў, ад 13 да 15 гадоў і ад 16 да 19 гадоў. Па кожнай намінацыі вызначаюцца пераможцы па ўзроставых катэгорыях з прысуджэннем дыпломаў першай, другой і трэцяй ступені. Конкурс праводзіцца па намінацыях:

— лепшы малюнак, пластычная праца пра Беларусь (фармат А4 і А3);
— фотаздымак аб Беларусі (памер здымка ад 8/24 см і вышэй);
— літаратурна-паэтычны твор (апавяданні, вершы, замалёўкі і г.д.);
— сачыненне „Беларусь і беларускасць у гісторыі маёй сям'і”.

Да работ трэба далучыць наступную інфармацыю: імя і прозвішча ўдзельніка, узрост удзельніка, адрас для карэспандэнцыі, назва асветнай ці культурнай установы, назва працы, імя і прозвішча апекуна або настаўніка аўтара.

Кожны ўдзельнік конкурсу адзначаецца ганаровым дыпломам, а пераможцы конкурсу ўзнагароджваюцца каштоўнымі прызамі. Падвядзенне вынікаў конкурсу адбудзецца ў маі ўручэннем узнагарод на адмысловым мерапрыемстве ў Беластоку, з запрашэннем СМІ, прадстаўнікоў Пасольства, беларускай грамадскасці. У Беластоку і ў Варшаве будзе сарганізавана выстава найлепшых прац, а таксама выданне іх зборніка. Прыняцце да разгляду матэрыялаў — да 31 сакавіка 2012 г. Конкурсныя работы можна дасылаць на адрас: вул. Варшаўская, 11, 15-062 Беласток. **(лук)**

## ЗАПРАШЭННЕ

на сустрэчу ў рамках
Дыскусійнага клуба АБ-Бы

**«Пагаворым пра лёсы беларусаў Падляшша»**

У праграме:
— сустрэча з праф. Яўгенам Міpановічам
— спектакль «Ой даўно, даўно... Беларускія гісторыі з Падляшша»
— прамоцыя кніжкі «Ой даўно, даўно...»
— адкрыццё «беларускай хаты»

**10.02.2012 а 17.00 (пятніца)**

Пачатковая школа № 4 у Беластоку
вул. Чэнстахоўская 6а
„Склеп з культурай” Аб'яднання АБ-БА





Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Вершы Віктара Шведа

## Хто вінаваты?

Просіць бацьку сын Альфрэд:
— Купі мне веласіпед.
— Хутка дарасцеш, мой сыну,
Купім тады аўтамашыну.

Дарос, вядома, той сынок,
Зрабіў аб фіяціку намёк.
— Ды ты не ўмееш,
мой Альфрэдзе,
Ездзіць нат на веласіпедзе.

## Паблажлівы татка

Па-прамоцыі ў рэстаране
Абед з'елі татка, дзеткі.
Бацька ласкава просіць пана
Каб даў дахаты недаедкі.

— Накормім нашага сабаку,
Які сядзіць там згаладнелы.
— Маем сабаку
— крыкнуў Якаў,
Наш татка стаўся мяккацелы!



Фота Ганны Кандрацюк *У нараўчанскім доме культуры*

# Як Алень Зграбная Лытка здабыў агонь



*(казка народа нутка)*

Чалавек па сваёй прыродзе, як тыя звяры і расліны, баіцца агню і пажараў. Той момант, калі ў грамадзе асвоілі стыхію, выдатна адмяніў жыццё чалавека. Пра гэта апавядаюць легенды ці не ўсіх народаў свету. Пра з'яўленне агню апавядаюць індзейцы *нутка*, што пражываюць на востраве Ванкувер (Канада). Як не цікава, у здабычы агню дапамог ім слімак-прыбярэжнік, які большасць свайго жыцця нырае ў моры!

Усё пачалося з чутак. Нібыта ў адным клане прыдбалі агонь. Яны як вока сцерагалі свой скарб і ніколі не дапускалі ў сваю вёску. З агнём адчувалі яны сябе першымі сярод іншых людзей на востраве. Гэта быў іх козыр, гонар і сіла. Шмат часу гадалі ў наваколлі як раздабыць той агонь. Вось у клане Алень прыдумалі спосаб. На выкананне місіі выбралі самага храбрага ваяўніка Зграбную Лытку. У час развітання шаман уручыў яму камень, шчотку і бурдзюк алівы.

— І без агню не вяртайся! — загадаў ваяру.

— Не падвяду вас! Клянуся гонарам! — адказаў Зграбная Лытка.

Ваяр добра ведаў люты характар жыхароў суседняга клана Воўк, але, раз паабяцаўшы сваім родзічам, ён быў прысуджаны выканаць задачу. Ён з'явіўся ў суседнюю вёску ў час, калі спраўлялі шлюб дачкі старшыні клана Воўк. А наш ваяр умеў не толькі страляць з лука. Ён яшчэ танцаваў так, што аж зямля дрыжэла і дзяўчаты млелі ад захаплення. Адтуль і пайшло яго імя-мянушка. Вось і зараз яго папрасілі затанчыць на гучным вяселлі. А Лытцы дык толькі таго і трэба было. Спачатку ён танцаваў здалёк вогнішча. Пасля поўначы, калі кампанія стамілася і расслабілася, ён наблізіўся да кастра ды загарнуў агонь у падрыхтаваную заранёў кедравую кару. Ды ходу! Паляцеў, быццам на сто коней яго пасадзілі...

У клане Воўк толькі пасля нейкага часу здагадаліся пра пакражу. Яны пусцілі за ваяром лютую пагоню, загадалі вярнуць пакражу і забіць хітрага зладзейчука. Беглі яны доўга ці коратка, пакуль дагналі ўцекача. І калі пагоня мела ўжо схапіць Зграбную Лытку, той азірнуўся і кінуў за сябе камень, дадзены яму шаманам. За плячамі зараз жа вырасла высокая гара! Тры дні і тры ночы перабіраліся праз яе ганцы, ды, адолеўшы перашкоду, зноў пачалі хапаць Зграбную Лытку. А той, памятаючы словы шамана, шпурнуў за сябе шчотку. Уміг за спіной вырас лес-гушчар. Зноў пагоня прадзіралася праз яго тры дні і тры ночы, каб у рэшце рэшт дагнаць Зграбную Лытку.

— Ну, цяпер табе канец будзе! — прыгразілі.

Зграбная Лытка ведаў што рабіць. У момант, калі карнікі лавілі яго за руку, ён выліў за сябе чарадзейны алей з бурдзюка. У гэты раз за плячамі разлілося глыбокае возера. Шчасце аднак не даецца ў рукі адразу, асабліва, калі ў здзяйсненні планаў дапамагаюць чары. І тут сталася непапраўнае. Ваяр упаў на зямлю і памёр на беразе возера. Аднак задуманая шаманам справа жыла сваім жыццём. Да мёртвага ваяра падпоўз слімак-прыбярэжнік, забраў агонь ды схаваў яго ў сваю ракавіну. Калі пасля трох дзён і начэй прыплыла ледзь жывая пагоня ад клана Воўк, на месцы ляжаў адзін мярцвяк. Разгубленыя ганцы доўга шукалі агню, ды не знайшоўшы таго, чаго шукалі, у няславе пацягнуліся ў сваю вёску.

Тым часам на бераг возера прыбеглі людзі з клана Алень, знайшлі слімака-прыбярэжніка, які сцярог агонь, ды прынеслі здабычу сваму народу.

У цэлым аповедзе найбольш захапляе факт, што чарадзейная гара, лес і возера не зніклі з паверхні зямлі, а толькі на векі раздзялілі варожыя кланы.

ЗОРКА

## Галерэя ЗОРКІ

**1. Імя і прозвішча:** Аляксандра Яроцкая (ПШ у Гарадку).
**2. Твой любімы прадмет:** англійская і беларуская мовы.
**3. У жыцці хачу стаць:** лекарам.
**4. У сяброў цаню:** сяброўства.
**5. Не люблю:** хлусні.
**6. Па-беларуску размаўляю:** з бацькамі і бабуляй, з настаўніцай беларускай мовы.
**7. Кніжка, якая мяне захапіла:** люблю ўсе кніжкі.
**8. Падабаецца мне музыка:** беларуская музыка.
**9. Твае ўлюбёныя стравы:** люблю ўсё, што гатуе мая мама.
**10. Твой любімы спосаб адпачынку:** чытаю кніжкі, часам па тры адначасова.
**11. Калі дарасту, хачу жыць:** у Гарадку, бо ён прыгожы.



Фота Ганны Кандрацюк

# Конкурс пра Свята закаханых (7)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Які графічны знак з'яўляецца сімвалам Свята закаханых „Валянцінак”?**

*а) павук з саломы,*
*б) ружа-кветка,*
*в) чырвонае сэрцайка.*

**2. Святы Валянцін лічыцца апекуном:**

*а) коней і хатняй жывёлы,*
*б) псіхічна хворых і божых шаленцаў,*
*в) лётчыкаў і касманаўтаў.*

**3. Хто аўтар культавага рамана (пра каханне) „Нельга забыць”?**

*а) Янка Брыль,*
*б) Уладзімір Караткевіч,*
*в) Юрка Геніюш.*

**4. Якога беларускага магната празывалі мянушкай „Пане каханку”?**

*а) Сапегу,*
*б) Храптовіча,*
*в) Радзівіла.*

**5. Якое „Свята кахання” спраўлялі нашы продкі?**

*а) Масленіцу,*
*б) Багач,*
*в) Купалле.*

Адказы дасылайце да канца лютага 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 4:** Найстарэйшы лес у Еўропе — Белавежская пушча (в); у лагатыпе Падляшскага ваяводства апынуўся зубр (б); XV Сустрэчы „Зоркі” праходзілі ва ўрочышчы Падцэркві, што ў Белавежскай пушчы (б); Беларускае літаратурнае аб'яднанне ў Польшчы — „Белавежа” (в).

Узнагароды — ***кніжкі „Ой даўно, даўно”*** (гісторыі запісаныя беластоцкімі гімназістамі) — выйгралі **Патрыцця Міхальчук** з Бельска-Падляшскага, **Лукаш Марчук** з Нараўкі, **Камiля Навіцкая** і **Мая Мішчук** з Арэшкава. Віншуем!

**ЗОРКА**

# Музыка з кайфам

## Ці „SHUMA” наробіць шуму?

Пару дзён таму назад мела сваю прэм'еру новая опера ў Познані. Лібрэта (оперны сюжэт) аўтар склаў на аснове вельмі паспяховага польскага фільма 2002 года „Дзень вар'ята”. Опера мела быць фантастычным мастацкім эксперыментам, гітом сезона, а аказалася тэмай для абгрунтаванай крытыкі, асабліва ў галіне музыкі! І гэтая гісторыя цікавіць нас найбольш, бо ў рэцэнзіях чытаем, што гэта чыстай вады графаманія. Можа ў выпадку „вар'яцкай” оперы гэта праблема, але ў сучаснай музыцы ўмелае карыстанне здабыткамі іншых — не як злодзей, але як талеанавіты спадкаемца — можа прынесці аўтарам/наватарам прызнанне іх геніяльнасці. Аднак у выніку часцей паяўляюцца калі не геніі, дык проста добрыя музыкі, кампазітары ці дыджэі. Гэтыя апошнія сёння ў „Музыцы з кайфам” найважнейшыя, бо рашаюць аб патэнцыяле новага праекта беларускай вакалісткі Русі.

Калі пяць гадоў таму стварыла я з сябрамі аднаразовы праект „Ilotronic” гэта была невялічкая гульня канвенцыяй, у рамках якой мяшаліся электроніка, вакал і жорсткая гітара. За намі ўжо былі ў той час рэміксы гуртоў „Kriwi”, „Палац” ці „Яр”. Быў працэрты шлях, якім можна было крочыць. Маю такое ўражанне, што электроніка прыходзіць тады, калі іншых варыянтаў ужо недастаткова. Мне было зашмат рок-металу, Русі, мабыць, надаела акустыка. Таму можна было яе сустрэць на сцэне супольна з праектам „Cherry Vata”, а зараз запрашае музыкаў паддзельнічаць у праекце „Shuma” (Šuma). „Шуму” яе аўтары называюць „digital archaic”, бо мэта праекта — у гарманічны спосаб пажаніць сучасны электранічны саўнд з традыцыйнымі спевамі нашых продкаў. „Нават не заўважыце, як пакрысе пачнеце падпяваць песням, якім больш за тысячу гадоў”, — гаворыць былая вакалістка гурту „Indiga”, якая ў асноўным сёння спявае ў „Акапа”. Але на сайце „Shuma” знаходзім не толькі прэзентацыі запісаных песень. Руся запрашае, каб скарыстоўваць вакальныя сцэжкі і міксаваць іх па-свойму. Напэўна з надзеяй, што абыдзецца без графаманіі.




i_basovka@o2.pl

**Марта ПТАШЫНСКАЯ**
**Семяноўка**



## Каштоўныя рэчы

Калі цябе не будзе,
Зразумееш усё гэта.
Будзеш пытацца ў сябе,
Чаму не было мяне так блізка?

Калі туманы засланяюць нашы ўспаміны,
Забываеш пра сябе без бачання.
Шкада нам будзе гэтага ўсяго,
Але не магу дапамагчы, а не спыніць яго.

Але, на жаль, гэта ўсяго толькі імгненне.
Я аддала б усё, каб спыніць яго.

## Успаміны

Не ведаю што і думаць,
Не ведаю, як жыць
І толькі з табой быць.

Я ведаю цябе з пясочніцы.
Многа нас злучала,
Але што нешта змянілася.

Пясочныя бабкі ўжо не тыя.
Сум схаваны ў іх,
Усё яны шэрыя.

## Такое жыццё

Маеш адно жыццё,
Таму карыстай з яго,
Успамінаў не трымайся,
Толькі ў будучыню ўглядайся.

Так мала людзей
Цэніць сэнс жыцця,
Час бяжыць хутчэй —
Так кажа бабуля мая.

Калісь скончыцца ўсё,
Усё тое што маем?
Мы, людзі, смерці баімся
І таму яе не чакаем.

## Канец

Каханне гэта не ўсё,
Грошы не таксама.
Нават калі ўсяго маеш замнога,
То і так невядома, што цябе чакае.
Усё больш хвароб
Людзей вынішчае,
Увесь свет старэе, памалу прападае.
Калі ён прападзе —
З ім прападзем і мы.
Нічога больш не будзе.
Застанецца толькі пыл.

## Доля нешчаслівая

**(з бабулінага)**

Доля мая доля, ты доля ліхая,
Чаму я не ўцякала, як была малая?
Дзе я не ехала, дзе я не ішла,
То ліхая доля там мяне знайшла.

Ці я ў лесе, ці я ў садочку
Ліхая доля знойдзе мяне ў кожным куточку.
Пайшла грабсці сена, галасна спявала,
Доля прыляцела, граблі паламала.

Дзе мне тут падзецца, пайду ў большы людзі
Доля прыляцела, пхае мяне ў грудзі.
Пайду ў царкоўку і пачну маліцца
Каб ліхое долі нарэшце пазбыцца.

Села я і плачу: як то будзе жыць?
Пайду да цыганкі, буду варажыць.
Цыганка маладая пачала карты раскладаць:
Ты ў гэтай долі мусіш пражываць!

Села і спяваю песню патайком
А слёзы ліюцца з вачэй ручайком.
Цыганка сказала, і так мусіш жыці:
Для няшчаснай долі да смерці служыці...

Малюнак Іаанны Федарук
з бельскай „тройкі”

# Польска-беларуская крыжаванка № 7

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 3:

Мак, бусел, павуцінне, ракіта, шарык, Іна, харчы. Баран, увага, сук, лецішча, літа, Нарач, квета.

Узнагароды, аўтаручкі і каляндарыкі з лагатыпам Радыё Рацыя, выйгралі **Агата Яканюк, Міхал Тамашук-Спірыдовіч, Вераніка Пташынская** з Дубін, **Войтэк Куптэль, Кшыштаф Антанюк** з Арэшкава, **Марк Панькоўскі, Дам'ян Анцутка, Рафал Марчук** з Нараўкі, **Вікторыя Артэмюк, Эвеліна Андрусевіч, Патрыцця Нічыпарук** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!






## Запіскі з цыкла „Час журавоў”

### Песня выгнаннікаў

*Станьма! – як ціха! – я журавоў тут пачую, якіх і сокала зрэнкі не ўбачылі б цалкам...*

***Адам Міцкевіч, „Акерманскія стэпы”***

Восенню ясныя і ціхія ночы канчаюцца імглою. Такою густою, што ў лесе нічога не відаць, чуваць толькі, як ападае з блізкіх дрэў лістота. Не відаць таксама, з якога боку ноч западае, а адкуль узыходзіць сонца. Яшчэ яно не ўстала і не пакацілася на пік небасклону. Спакой святлеючага рання. Лянівы застой цёплага паветра. Бясклапотнасць пераплываючая струмянём ветру і свежых праменняў праз пёры стаяўшых на сваіх высокіх нагах на разлеглых і аплеценых імглой багнах над Калонкай — журавоў.

Меладычная ціш.

Жар сплываючы на доўгія шыі, што падымаюцца павольна. Не да канца яшчэ адплюшчаныя вочы, асыпаныя сонечнымі іскрамі. Стаяць у задуме на падмоклых лугах, што навучылі іх глядзець на свет. Павольна ўздымаючыміся крыламі малююць карты гісторыі, з гонарам прымаючы свой лёс. І пачынаюць несці сваю выгнанніцкую песню.

На пачатку чуваць кароткія, рваныя гукі, што пасля зліваюцца ў працяглае, гучнае курлыканне. Няма прыгажэйшай і больш журботнай песні ва ўсім свеце.

Бо дзе ж іхні дом? Над Нарвай, дзе нарадзіліся? Ці можа там, куды адлятаюць на зіму?

Імгла радзее. Робіцца відна.

Дзень яшчэ не пагубіўся для доўгіх начэй, у зямлі яшчэ шмат цеплыні. Ды для журавоў — ужо пара. Гэта час, калі пажывіўшыся тым, што засталося на незааранных нівах, сарвецца ўвесь статак, перакрыкваючыся ўзаемна, быццам развітваючыся з айчынай...

Вечнасць супрацьстаўленая кароткахвілліннаму гуку, мімалётным вібрацыям званоў схаваным у песні. Сум і змрок заблытаныя ў срэбна-шэрыя пёры. Неспакой душ. Ключ, які ствараюць птахі, адчыняе дзверы ў пакоі змагання за краіну, за народ, за братоў і сясцёр.

Неспакой запісаны ў цішыню шыбавання. Глядзі. Ляцяць журавы...

Журавы — сімвал даўгавечнасці, будуць памятаць вешчыя песні і напяваць іх, аціхаючы з часам... Ды ніхто апроч русалак не слухае іхніх песень, якія і так праз хвіліну вернуцца ў атхланне халодных патокаў, каб штоноч патанаць з птушыным баяннем.

І зноў, вітаючы сонца раннем, будуць раскідаць крылы да палёту.

Па новую песню вернуцца з аповедам пра Спарту.

Лунаючыя ў прасторах песняры будуць верыць, што ўрэшце гэты люд з-над Нарвы, Свіслачы і Нёмана ўздыме свае галовы ўвысь, каб слухаць.

Каб зразумець, аб чым пяюць журавы. Выгнаннікі, што развітваюцца з айчынай восенню, ды што заўжды вяртаюцца вясной.

А курлыканне іхняе — песня свабоды.

**Багдан ДУДКО**

*Працяг размовы з Мікалаем Врублеўскім, запісанай у 2006 годзе Дарафеем Фіёнікам*

# Дар трет’ому поколіен’у



*(Заканчэнне з 6 н-ра)*

**— А еслі ходіт про мову сусіедніх рускіх в’осок: Деніскі, Пл’утічы, Рајск, Кнорозы, Гат’кі, відно јакујус’ разніц’у...**

— Тут зачнем од самого тытулу „Słownik języka wsi Chraboły”. То не прыпадково, бо ж можна было назваті „Słownik gwary bielskiej”. Ал’е то было б туол’кі в јакомус’ стопн’у правдіве. Треба бы было тугды браті тыје розніці, которы существујут міеждy в’оскамі і ја здав собіе справу, што роботы буде так муного, што не буду міев часу, коб тым всіем зан’атіс’е.

Пл’утічы, Рајск, Гат’кі, Деніскі, Кнорозы то вјоскі најбліжчы гваровo Храболам. Ал’е вже в Кнорозах часц’ слуов іначеј выговорујец’ц’е. Не прывјазујучы однак велікуј вагі до тых одрозн’ен’, можна сказаті, што то таја сама говорка.

Можна з јакојус’ там ошыбкоју говорыті, што тој словнік, то јест словнік говоркі б’ел’скуј, бо такаја назва најл’епібы пасовала до того јазыка тутејшого. Мы тут часто говорым, што то јазык б’елорускі з повным переконан’ом, што не је прецызыјне окресл’ен’е. Најдокладн’ејше окресл’ен’е — рускі. І етнічно думају, што најпрецызыјн’еј было бы окресл’аті — рускі. Ал’е тут політычне дз’алан’е одыгрывало својy рол’у в тым кіерунку. Міејсцовы л’уде називаліс’е б’елорусамі. Кул’туру, особліво јазык назвалі б’елорускім, хот’ то не вповн’е одказвало станові фактычному. Мовознавцы бачат тут украін’скі вплыв. Ал’е тој украін’скі чыннік в свјадомосці л’уді тута не заісновав. Тепер, то інша справа...

**— Тут і тепер вводіц’е з тым непотребны заколот...**

— Вводіен’е заколоту то јест реч свјадома ал’бо несв’адома. Ал’е напевно не спрыјаје розвојові цывілізацыі јако такого. Думају, што тој процес заколоту з ворожеством мінаје. Тыје, хто міев опред’еліт’іс’е украінц’ом — опред’елівс’е. Тыје, хто былі б’елорусамі, далеј імі позосталі. І то рачеј будут појединчы выпадкі прыбліжен’а до теј украінскуј цывілізацыі.

**— Ја часто публічно пудкресл’ују, што наша рус’ка пудл’ас’ка мова маје глыбоку базу в рус’куј мові Веліког Кн’азества Літовского, мові Скарыны, Статутув і Метрыкі. Правда, науковцы спірајуц’е про тоје, јак јеі вымовл’алос’е. З чого то выпікаје, што јакраз наша біел’ска говуорка заховала туол’кі спул’ных цех з мовоју XV/XVII віеку.**

— В выпадку сіетого словніка консеквентно вводім дыфтонгі. Воны в певным сенсі је кл’учом до того пытан’а — чом таја мова заховалас’а. Бо што то дыфтонг? Самоје названіје дыхотоміја, значыт — подвуојне. І скул’ вз’аліс’е тыје дыфтонгі? Воны, оказујуц’е најл’епі зафункцыјоновалі на сіетуом терені, де жывјол украін’скі сутыкнувс’а з жывјолом б’елорускім. Кажды з іх міев укшталтовану в јакомус’ сенсі своју мову і, треба сказаті, што на туом стыкові не звыценжыла одна мова, а кажда прын’ала ел’ементы сус’едн’уј мовы. Вз’аті најдавніејшы слова, звјазаны з бытом чоловіека — куон’. На украін’ском јазыкові — кінь, на белоруском — конь; тут одін не муог поб’едіті і другі не муог, і вышов куон’, вуол, куот...

Тыје дыфтонгі былі воспрынімал’ны дл’а нас’ел’енија стычного. Тој конгломерат мовы просушчествовав так довго і свіедчыт вуон о бліскосці белорускoго і украінского демографічных ел’ементув. Бо тыје дыфтонгі не повсталі на пограніччу рус’ко-пуол’скім. Там тыје системы былі на туол’кі оддал’оны, што не далі можлівосці створыен’а нового.

Такаја мова просушчествовала довго і тому, што не было бліско іншого ел’ементу, которы тују дыхотомічну цывілізацыју завојовав. Некоторы ел’ементы з жыц’а члека, которы кажуц’ц’е непрыдатнымі, станов’ащ’а важнымі в іншум часі. І таким ел’ементом в нашуом выпадкові зјавл’ајец’а певна цывілізацыјна одсталос’ц’ в стосунку до сусіедув. Прыміер выразны — Пол’есс’е. В тыје болота пол’еські не было за муного охотных ос’едл’атіс’е і вносіті там своіе ел’ементы. Тыје цывілізацыі, которы там укшталтоваліс’ перетрывалі до нашого часу.

Тепер іде зміена. Ал’е тоје, што не было цывілізацыјного режыму споводовало, што од XV в. почынајучы, хватало дл’а сполеченства, коб ім послуговатіс’а на штоден’ в рамах одного культурового с’родовіска — јазыкового.

Важну рол’у в захован’у тут рускосці одыгрывала Церков. Ціелы час базовала на церковнослов’анскуј мові, јакаја барзо прыхіл’но прынімалас’ через л’уді. Хватіт порунаті з сусіедамі — Пол’акамі, де Косц’ул функцыјоновав на базі лацінскуј, што было чужоје... А в Церкві мова была бліс’ка.

**— Церковнослов’анскі в певных формах је бліжчы тују нашуј рус’куј мові, чым російскі. Воз’мем хот’а б часовнікі: ходіті, робіті, співаті...**

— Тут говорывшы про російскују мову, треба муоцно одрозніті тују јеіі першобытносц’, з тым што д’ејалос’а в остатніх столет’т’ах. Рускіј јазык поза вјоскују в значнум стопн’у вхлан’ав в себе назевніцтво іншых націі, особліво технічны терміны і іншы. Воз’мем хот’ бы назвы міесец’ув, в біелорускуј чы украінскуј мові звјазаны воны з прыродоју. А в російскуј перен’аты з заходу... Російскі јазык зачав вхлан’аті цывілізацыју заходу, не перепрацовував јеіі на своју логіку јазыка. Ран’ејше дес’ зостало втрачоне.

**— Од часу, колі складавс’е словнік — 1967 г. — мінуло покол’ен’е. Јак з перспектывы того покол’ен’а можна окресліті сітуацыју рус’куј мовы в Храболах?**

— Мы тут сказалі про разны чыннікі, јакіје вплывалі на јазык. На тоје пытан’е можна одказаті, прогнозујучы сітуацыју на сіетых терыторыјах. Јеслі не буде був’ліх змін цывілізацыјных, то сіета цывілізацыја — пудл’аско-руска — довго не утрымајец’ц’е. Поколіен’е тепершніх 20-30-л’аткув може быті остатнім покол’ен’ом рускомовным. Вјоска, на которуј муцнеј трымајец’а тој јазык, занепадаје і в такуом кшталц’е, јак была дотыхчас — загіне. Јеслі загіне вјоска, то на тоје міесц’е прыјде інша цывілізацыја. В нашуом выпадку сіла націску іде со стороны цывілізацыі пул’скуј. Колі сытуацыја політычно-демографічна не зм’еніц’а в наступных кіл’кох поколіен’ах, пон’атіје рускосці буде захоуватіс’е тул’ко у тых л’уді, которы перенесліс’е до городув. Знаны на світеі јест такі момент, што еміігранты дыјаспоры, в першум покол’ен’у ул’агајут вплывові главнуј сілы, натомјаст бардзо сіл’не одродзен’е наступаје в 3 покол’ен’у. Не роздірајучы которе то покол’ен’е тепер в городах, квестыја то літ 50 — 60.

Ал’е огул’ным чынніком буде тут розвуј цывілізацыі сусіедніх і іх стычносц’ з сіетоју цывілізацыјоју, бо тепер входіт цывілізацыја огул’носв’itова, глобал’на. В муногіх выпадках самоје словніцтво выкорыстоувује базу даного терену і ты заховајец’це в тых покол’ен’ах, то тоже трудно пророковаті. Бо најті одповіедні словны екві вал’ент до того, што выходіт з даным предміетом в інне ср’одовіско — не так л’огко. Тыје цывілізацыі, которы розвівајуцца, выпереджают інных і несут з собоју не туол’кі десыгнаты — предміеты, ал’е і назвы. Прыміер, хот’— аб туој англ’осаскуј цывілізацыі, коліс’ лаціскуј і гел’л’еністычнуј. Цывілізацыја выпереджвала суседув і несла до іх не туол’кі десыгнаты, ал’е і словніцтво.

В нашуом выпадку, колі розважаті, вс’о зал’ежыт од політыкі. А політыка је зміенна. Ран’еј уважалос’е, што можна народ подбіты перевесці на своју цывілізацыју через демографічны процэсы. Напрыміер, на терены пул’скі входілі н’емецкі вплывы, елімінујучы кул’туру, јазык. В нашуј стрефі і тепер мајем дочынен’а з муоцнымі вплывамі пуол’скуј кул’туры на тыје терены. Ран’еј еjі пробовалі вводіті на сілу. Воз’мем хот’а б час за Герка, колі ліквідовалі остатні б’елорускі школы, пул’скі јазык був вводжоны скруоз’, де можна. Тепер дошлі до вн’оску, што л’еп’еј не робіті нажыму адміністрацыјного, допустіті вол’у, і таја вол’а буде скутечн’ејша од нажыму репресыјного.

І так воне получајец’а. Јеслі занадто лајалі бы іншомовных за тоје, што воны занадто послуговујуц’а своім јазыком, жывут духом својеі цывілізацыі, то повстав бы, колі не огул’ны, то внутренны бунт. А так, через контакты цывілізацыјны і контакты родзінны хучеј вплывајец’е на тоје, што дана цывілізацыја буде занікаті.

Што буде даліеј? З тым покол’еном, то не вјадомо, в јакуом стопн’у сохраніц’а таја база, опора. Значнују подтрымкоју дл’а розвіц’а і захован’а тых подл’аско-рускіх, пол’еско-рускіх чы волынско-рускіх цывілізацыј, јавл’ајец’а тоје, што сушчествује сіл’н’ејша, ал’е своја цывілізацыја. Говорым про всходн’ослов’анскі панства. Важна тут рол’а Церкві і того, јак вона потрафіт вытрыматі націск пол’онізацыі. Через захован’е свого руского характеру, буде вона і пудтрымуваті подл’аско-руску цывілізацыју.

**— В Біел’ску пона шче вытрымује... І мају надіеју, што буде так даліеј. Думају, што захован’у нашуј рускуј мовы, в тых третіх покол’ен’ах, про јакіје Вы говорылі, поспријаје і Словнік, јакого кунчајем друковаті. Можна сказаті, што тој Словнік то м’еновіто дар трет’ому покол’ен’у...**

— Так і је. Трудно не шкодоваті того, што чоловіек не буде бачыв овоцув свого дз’алан’а. Ал’е так јак логіка розвоју цывілізацыјного показује, то тут ніц бардзо не зміеніц’а, бо сіете покол’ен’е, которе на штоден’ послугоувајец’а тејy рускоју говуоркоју, воно не потребује подтрымкі. Не маје переконан’а, што то реч може быті утрачона. В свјазі з тым, што нос’бітув сіетуј цывілізацыі буде шторaз був’ш в постаці ел’ектронічнуј, то наша робота впішец’а в тој нурт огул’ноцывілізацыјны (...).

***Размаўляў Дарафей Фіёнік***

Язэп ПАЛУБЯТКА

# Сяргей Крывец: беластоцкі творчасці ўзлёт

**Гэтае імя як для жыхароў Беларусі, так і беларусаў Беласточчыны невядомае. Яно малавядомае і для беларусістаў, і беларускіх літаратуразнаўцаў. Вярнуць з бяспамяцтва імя паэта-самавучкі Сяргея Крыўца паспрабавалі сябры і прыхільнікі яго таленту напачатку сямідзесятых гадоў мінулага стагоддзя.**

Пра талент і паэтычны дар гэтай асобы сведчыць той факт, што да выхаду кніжкі вершаў „Дубок", якая пабачыла свет у 1972 г. накладам 2000 асобнікаў — невялікай літаратурнай спадчыны паэта — прычыніліся такія знакамітыя на Беларусі, і ў тым ліку вядомыя на Беласточчыне, асобы, як Максім Танк і Рыгор Шырма. Рыгор Шырма выступіў укладальнікам кнігі і напісаў да яе прадмову. Максім Танк рэдагаваў выданне. Між іншым у прадмове пра Сяргея Крыўца сказана наступнае: „Імя гэтага незвычайна сціплага, але высокаталенавітага паэта мала хто ведае. Сабраная пасля яго смерці літаратурная спадчына дае поўнае паняцце аб тым, які гэта быў цудоўны, востры і моцны талент".

На долю гэтага творцы выпалі цяжкія жыццёвыя выпрабаванні. У яго вельмі складаны і пакутны лёс, як і адыход у нябыт.

Сялянка Марыя Крывец жыла адзінока і бедна. Свайго ўласнага амаль нічога не мела. І гэта змусіла яе пайсці служанкай да пана ў маёнтак Тупічаны (зараз вёска Ваўкавыскага раёна), што на супрацьлеглым баку Нёмана ад вёскі Дубна Мастоўскага раёна (тады яна належала да Скідзельскага павета). У 1909 г. у Дубне ў Марыі нарадзіўся другі сын, якога назвалі Сяргеем (старэйшы — Сямён).

У Сяргея быў дзед Сямён Табала. Ён крыху ўмеў чытаць на роднай мове ды стаў першым настаўнікам другога ўнука і з нейкага календара шасцігадовага Сяргея навучыў чытаць. Хлопец імкнуўся да ведаў і дамагаўся ўсяго самастойна. Ужо ў сем гадоў ён зносна валодаў рускай і польскай мовамі.

Яшчэ хлопец любіў малявацць і за гэта ў школе атрымліваў нейкія падарункі. Аднойчы намаляваў вёску, дарогу праз яе і царкву, за што атрымаў каляровыя алоўкі. Можна ўявіць радасць безбацькоўскага дзіцяці тых часоў! Першая сусветная вайна закончылася. З немцкага палону вяртаецца вяскоўец. Першай справай ён выкідае на сметнік сабраную раней бібліятэку. Радасці хлопца не было мяжы. Большую частку тае бібліятэкі, што стала непатрэбнай гаспадару, ён забраў да сябе. У асноўным гэта былі брашуры рэлігійнага зместу. Тым не менш для Сяргея гэта была аддушына. У 1921 г. паміраe дзед. Зноў паўстала пытанне выжыць. Увесну 1922 г., каб пракарміцца, маці ўладкоўвае яго пастушком. Як сведчылі ў свой час аднавяскоўцы, у яго торбачцы сярод іншага былі і кнігі. Увосень Сяргей вяртаецца да маткі і, каб атрымаць хоць нейкую адукацыю, пад уплывам рэлігійнай літаратуры накіроўваецца ў Жыровіцкі манастыр. Прабыў там два тыдні і вярнуўся назад, бо адчуў, што патрэбнай яму адукацыі ў манастыры не атрымае.

Зноў батрацтва. Дзесьці тады пачаў пісаць вершы, якія друкаваў у дзіцячым часопісе „Заранка" пад псеўданімам „Сярожа-пастушок". У гэты час у Заходняй Беларусі віравалі рэвалюцыйныя настроі. У 1925 г. у Дубне ўзніклі тры ячэйкі Беларускай работніцка-сялянскай грамады. Сяргей непаўналетні і яго ў свае шэрагі дарослыя не прымаюць, але ён пастаянна ходзіць на пасяджэнні. Узнікае таксама ячэйка Таварыства беларускай школы. Тут яго абіраюць сакратаром.


Сяргей Крывец

Піша бунтарскія вершы на злобу дня, піша аб тым, што набалела. У пошуках справядлівасці і вольнай творчасці жадае патрапіць у Савецкую Беларусь. У раёне Стоўбцаў быў затрыманы паліцыяй і вернуты назад. З таго часу пастаянна знаходзіўся пад пільным наглядам гэтых органаў.

У 1929 годзе сям'я пераязджае ў Гродна. Там, дзеля пражытку, вучыцца сталярнаму рамяству; цяслярнічае, будуе дамы і працягвае займацца творчасцю, шмат чытае. Пачынае вывучаць нямецкую мову. На зацікаўлены запыт брата: „Навошта табе гэта?" адказаў: „Хачу ў арыгінале чытаць Гётэ і Шылера". Як сцвярджаюць некаторыя даследчыкі, ім былі напісаны вершы і на нямецкай мове. Ён ведаў рэальнае жыццё беларусаў і не прамінаў засведчыць аб тым у вершах. У 1933 годзе пераязджае ў Беласток. Ёсць розныя меркаванні яго прыезду ў гэты горад. Найбольш верагодна, што яго завабіла туды больш разнастайнае літаратурнае жыццё, чым у Гродне. Цяслярнічае і шмат піша. Вось што распавядае пра беластоцкі творчы перыяд паэта Рыгор Шырма: „Ён там прымае ўдзел у рэвалюцыйным руху і там, як і іншыя паэты Заходняй Беларусі, не мінае астрога. Сяргей Крывец ведаў літаратуру і любіў яе. Прыемна было весці з ім бяседы на літаратурныя тэмы, чытаць жывыя, востра-сюжэтныя яго апавяданні. Бывала цэлымі начамі мы хадзілі па ўскрайках Беластока і ў бяседах пра Горкага і Чэхава, пра Пушкіна і Міцкевіча, пра Купалу і Коласа, пра савецкую і заходнееўрапейскую літаратуры, не заўважалі, калі „ўсход разгараўся пурпурнай палоскай". Гэты рабочы з асветай за два класы пачатковай школы меў багатую літаратурную спадчыну". У 1939 годзе Заходняя Беларусь далучана да БССР. У 1940 годзе здае экзамены і паступае ў Беластоцкі настаўніцкі інстытут. Навучаецца там да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Падчас акупацыі застаецца са старой маці і працягвае пісаць вершы (друкаваўся ў „Новай дарозе" — рэд.).

У 1944 г. пасля вызвалення Беластока Сяргей Крывец мабілізаваны ў савецкае войска. У красавіку 1944 г. падчас штурму Гдыні (Польшча) быў цяжка паранены, а 28 красавіка памёр.

Каб чытач сам усвядоміў талент і творчую непаўторнасць Сяргея Крыўца ніжэй прапануюцца некаторыя літаратурныя творы, што былі напісаны ім толькі ў Беластоку.

**На Новы 1934 год**

*Трашчыць на вуліцы мароз,*
*А ў хаце пунктам замярзання*
*Стаіць халоднае пытанне:*
*— Ну, многа там, сынок, прынёс?*
*— Прынёс... усё, што зарабіў.*
*Уставай, паможаш падзяліцца,*
*Уставай, матуля, пахвалі —*
*Я сёння гроша не прапіў,*
*І хоць кругом халодны лёд —*
*Не ўсё пад лёдам халадзее,*
*Дзе блудзіць іскраю надзея,*
*І мы спаткаем Новы год.*
*Трашчыць за вокнамі мароз,*
*На шыбах пышныя ўзоры.*
*— Уставай, матуля, пагаворым,*
*Паглянь, я й дроў ужо прынёс.*
*Распалім зараз пад плітой,*
*Сагрэем у чайніку вадзіцы,*
*Прыемна будзе й нам напіцца*
*Цяпла традыцыі святой.*
*Б'е недзе поўнач: раз і два...*
*Жуда гуляе па пакоі:*
*І хтосьці дыхае ў твар,*
*Абняў халоднаю рукою.*
*У саване белым Новы год*
*Стаіць з касою ля парога.*
*У грудзях ляжыць халодна лёд*
*І бездань чорная, як смоль.*

**Беласток, 2 студзеня 1934 г.**

**Аплакаў долю я сваю**

*Аплакаў долю я сваю*
*Яшчэ за дзён сваіх дзіцячых,*
*Цяпер я слёз ужо не лью*
*І хай па мне ніхто не плача.*
*У руках маіх сталь рэвальвера,*
*Праверaны ў баю кінжал.*
*З дарогі прэч! Я ўжо не веру*
*Ні ў гнеў багоў, ні ў людскі жаль.*
*Я — крык скатаванай ахвяры,*
*Я — енк роспачы й адчаю.*
*Я — помсты меч.*
*Я — біч.*
*Я — кара.*
*Кідаю кліч:*
*З дарогі прэч!*

**Беласток, 28 жніўня 1938 г.**

**Мы забылі, што можна любіць**

*Мы забылі, што можна любіць.*
*Эх, ты, моладасць наша суровая!*
*Але сёння ўжо так і быць*
*Пацалую цябе, чарнабровая.*
*Не судзі мяне, хто малады,*
*Правы сэрца не намі напісаны.*
*На вясне пачынаюць сады*
*Разгарацца ружовымі вішнямі.*
*Дык хай будзе, што мне ўжо быць,*
*Пакуль вішня красы не асыпала,*
*Пакуль кроў маладая дыміць,*
*Я люблю.*
*Не магу не любіць,*
*Бачна доля такая мне выпала.*

**1940 г.**

**Не магу выбягаць я наперад**

*Не магу выбягаць я наперад,*
*Не жадаю застаца і ззаду.*
*Пакуль сэрца дыміць яшчэ верай,*
*Я не вып'ю мяшчанскага яду.*

*Не брыду яшчэ той каляінай,*
*Што завецца мяшчанскім балотам;*
*Я шыбую на крыллях арліных,*
*Я жыву неабсяжным узлётам.*

*І ў мяне пакуль што мая доля*
*Павявае размашыстым чубам,*
*Выйду з ёю ў адкрытае поле —*
*Усе пытанні пастаўлены рубам.*

*Не чытаю табліц на растані*
*І дарог для сябе не пытаю,*
*Траплю ў бурную сферу кахання,*
*Поўным сэрцам яго прывітаю.*

*Я ды шыр без канца і пачатку,*
*Шырыня маёй волі і я.*
*Ёсць прыгожыя, кажуць, дзяўчаткі,*
*Значыць ёсць сярод іх і мая.*

*А спаткаўшысь з сваёй чарнабровай,*
*Ёй скажу: — У адзінокім жыцці*
*Ты мне зоркай свяціла далёкай,*
*Будзь бліжэй да мяне і свяці.*

**Вайна**

*Сарвалася лавінаю жалезнай,*
*Закруцілася бурай шалёнаю,*
*Разлілася стыхіяй бязмежнаю,*
*Саранчою апала зялёнаю.*
*Застагналі палі пад калёсамі,*
*Задрыжала зямля пад ударамі,*
*Узвіліся дымы пад нябёсамі,*
*Старана засвяціла пажарамі.*
*Свет напоўнены грукатам, рокатам,*
*Бабы носяцца праставалосыя,*
*Людзі падаюць, коцяцца покатам,*
*Быццам тая травіца пад коламі.*

**Расцвітае сад прыгожа**

*Расцвітае сад прыгожа*
*У зіхаценні буйных рос,*
*Месяц коціца з-за хмары*
*На акраіне нябёс.*

*Выйшлі зоркі карагодам,*
*Сыплюць срэбра на ніз,*
*Сіняватым лёгкім дымам*
*Паміж дрэў туман павіс.*

*Салавейка ўжо шчабеча*
*Пра юнацтва і вясну,*
*Я пайду яго паслухаць,*
*Бо ўсяроўна не засну.*

*Пайду слухаць, як ціхутка*
*Пачне сэрца ныць, ныць,*
*І пад песню салавейкі*
*Я паклічу свае сны:*

*— Дзе ж вы, дні майго юнацтва,*
*Дзе вясна маіх гадоў?*
*Не пакінулі вы следу*
*Між квітнеючых садоў!*

*Камсамолачка, галубка,*
*Выйдзі, сэрцайка, ка мне,*
*Мы пад кусцікам жасміну*
*Пагаворым аб вясне.*

*Раскажу табе пра тое,*
*Як я жыў і як жыву.*
*Як з краіны ясных мрояў*
*Сны прыходзяць наяву.*

**Беласток, май 1941 г.**

**Перастань!**

*Ой ты, галубанька, дзеванька мілая,*
*Што ж так глядзіш на мяне?*
*Ведай, ў грудзях у мяне баязлівае*
*Сэрца калышацца ў сне.*

*Ведай, што чорныя вочы дзявочыя*
*Могуць яго разбудзіць;*
*Буду ўздыхаць па іх кожнае ночы я,*
*Ах, перастань!.. Не глядзі!*

*Веюць далёкія ясныя марывы,*
*Сыплюць чароўныя сны,*
*Моладасць буйная ў струны ўдарыла*
*Песню разгульнай вясны.*

*Муціць вячэрнюю цішу наўкола,*
*Звонячы ў сталь, маладзік.*
*Ах ты, навеяна здань чарнавокая!*
*Стой! Пашкадуй, не глядзі!*

*Рокаты лірныя сэрца напоўнілі,*
*Хочацца жыць і любіць.*
*Усё, што забылася вочы прыпомнілі,*
*Іх мне ўжо не забыць.*

*Чую ўжо, ведаю, буду няшчасны я*
*Следам за шчасцем хадзіць*
*З ціхай малітваю: — Зорачка ясная,*
*Выйдзі ка мне, паглядзі!*

*Новае выданне*

Сяргей ЧЫГРЫН

# Беларускі каляндар ад Уладзіміра Хільмановіча

*У Беластоку пры фінансавай дапамозе Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства з друку выйшаў на польскай мове „Białoruski kalendarz historyczny" („Беларускі гістарычны каляндар"). Яго склаў краязнавец, гісторык і журналіст з Гродна Уладзімір Хільмановіч. Дарэчы, „Беларускі каляндар-даведнік на кожны дзень" Уладзіміра Хільмановіча пяць гадоў таму свет пабачыў у Вільні. А вось у Беларусі такі арыгінальны і неабходны каляндар, відаць, нікому не патрэбны, бо да сённяшніх дзён ніводнае беларускае выдавецтва аўтару так і не прапанавала выпусціць яго ў свет. А падобныя календары ніколі ў Беларусі не выдаваліся. А вось палякам каляндар спадабаўся, бо яны ніколі б не выдавалі яго, калі б ён ім зусім не быў патрэбны.*




Польскамоўны каляндар Уладзіміра Хільмановіча — гэта пераклад беларускамоўнага календара, што выйшаў у Вільні. На беларускую мову яго пераклалі Марцін Рэмбач і Віталь Луба. Пераклад вельмі грунтоўны і дасканалы ў напісаннях прозвішчаў і імён зразумелых польскаму чытачу.

Канцэпцыя яго складання простая — ён прыдатны на кожны каляндарны год.

Некалі ў Беларусі выходзілі адмысловыя календары, дзе да кожнага дня былі „прычэплены" даты, падзеі, здарэнні. Але тыя календары звычайна распавядалі толькі пра „круглыя" даты. Ды і інфармацыі там былі выбарачныя. Тэма камуністычных рэпрэсій, эміграцыі, „нявыгадная" гісторыі проста замоўчвалася. Уладзімір Хільмановіч у сваім календарыдаведніку пастараўся сабраць максімум падзей, звязаных з беларускім жыццём і гісторыяй краіны. Тут даты нараджэння і смерці вядомых і малавядомых, часам наогул забытых, але вартых увагі людзей, дзеячаў беларускага руху, ганебныя даты падпісання розных дакументаў, якія адыгралі знакавую ролю ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны. Кожны дзень года мае некалькі падзей, некалькі дат, раскінутых па гадах.

У календары-даведніку інфармацыя падаецца вельмі сціпла, можна сказаць, што нават скупа. Але гэта дае магчымасць хутка арыентавацца пра што і каго шукаць інфармацыю далей. Каляндар падаецца нейкім пераходным звяном паміж звычайным календаром і энцыклапедыяй, у чым яго і адметнасць.

Даведнік змяшчае пераважна фіксаваныя даты апошніх трохсот гадоў нашай гісторыі і, безумоўна, гэта трагічны ў большасці сваёй час, і таму, мабыць, нямала сумных старонак і дат. Аднак аптымізму павінен надаваць той факт, што беларуская нацыянальная ідэя ўсё роўна развівалася і яна прысутнічае зараз. Гэтым даведнікам аўтар сапраўды хацеў бы вярнуць многія імёны. Адчуваецца, што складальнікам выкарыстана была шматлікая энцыклапедычная літаратура, розныя інтэрнэтныя рэсурсы, праца, відаць, працягвалася не адзін год.

Чытаючы каляндар, адчуваецца, што Уладзімір Хільмановіч найбольш абапіраўся на гісторыю Заходняй Беларусі: Гарадзеншчыны, Віленшчыны, Беласточчыны. І хоць у дадзеным выпадку адбор персаналій носіць суб'ектыўны характар, усё ж складальнік не прапусціў ні аднаго прозвішча, якім ганарыцца наша Айчына. Ён пастараўся змясціць звесткі пра тых людзей, якія ў сваім жыцці мелі непасрэднае дачыненне да беларускага руху: ці то душпастырскай, ці то культурнаасветніцкай дзейнасці, ці ўдзельнічалі ў палітычных, вайсковых арганізацыях, ці ў дысідэнцкім руху ў савецкія часы і г.д.

Неяк Уладзімір Хільмановіч сказаў, што „права на памяць — адно з асноўных правоў чалавека, яно не рэгулюецца ні заканадаўствам, ні нейкімі часовымі палітычнымі рэжымамі. Бо права на памяць дадзена кожнаму народу Богам і гісторыяй". Польскае выданне „Беларускага гістарычнага календара" яшчэ раз даказвае, што Беларусь мае вялікую гісторыю і найвялікшых сваіх сыноў, якія змагаліся і змагаюцца, каб „людзьмі звацца", каб заняць „свой пачэсны пасад між народамі", як казаў некалі Янка Купала.




Катаванні — адзін са спосабаў, якім карыстаецца цяперашняе кіраўніцтва ў Беларусі, каб не даць іншадумцам аніякага шанцу. Гэта вельмі натуральна, калі разумееш, што час „пераконваючых" прамоў мінуў, і трэба „пераходзіць ад слоў да справы". Прычым такі час мінуў яшчэ напрыканцы 2010 года, калі паспрачацца аб лёсах свайго народа з прэтэндэнтамі на вышэйшую пасаду ў дзяржаве Аляксандр Лукашэнка не прыйшоў. Аказалася, сапраўды сэнсу спрачацца не было, бо месцы апанентаў рэжыму — за кратамі, а лепей — на дыбе ці на кіі. Праўда, часы цяпер гуманнейшыя за мінулыя стагоддзі — ужо неяк не модна саджаць на кій ці калесаваць. Але гэта не значыць, што фантазіі палача няма дзе разгуляцца. XX стагоддзе пакінула багаты плён у „працах" гестапа ці НКВД. Які досвед нечалавечага абыходжання з вязнямі выкарыстоўваецца ў беларускіх засценках застаецца толькі здагадвацца, бо нават на сайце, што мае назву „Праваабаронцы супраць катаванняў", не распавядаецца пра такія дэталі.

Новы праваабарончы сайт, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://protivpytok.org**, з'яўляецца віртуальным прадстаўніцтвам аб'яднання беларускіх праваабаронцаў, якія ставяць на мэце безумоўнае выкананне Беларуссю Канвенцыі супраць катаванняў і іншых, жорсткіх бесчалавечных і прыніжаючых чалавечую годнасць абыходжанняў. Аб гэтым распавядаецца на старонцы „Пра нас".

Сайт быў задуманы як двухмоўны — маюцца беларуская і руская версіі. Праўда, беларуская мова тут другасная, бо далёка не ўсе старонкі змяшчаюць інфармацыю на ёй.

Будова сайта падаецца звычайнай — ён нібыта падзелены на тры часткі, але па сутнасці ўся інфармацыя падаецца пасярэдзіне выяўлення. Перш за ўсё, гэта тычыцца першай старонкі, дзе месцяцца навінныя паведамленні. Іх адлік вядзецца ад 14 снежня мінулага года, прычым большасць нататак цалкам рускамоўная.

„Праваабаронцы супраць катаванняў" асноўнымі накірункамі сваёй дзейнасці бачаць унясенне артыкула „катаванні" ў Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь на аснове вызначэння Канвенцыі ААН супраць катаванняў і іншым жорсткім бесчалавечным і прыніжаючым чалавечую годнасць абыходжаннем і назначэнне адпаведнага пакарання за дадзенае злачынства; унясенне змен у Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях з мэтай дазволу атрымання прадуктовых перадач адміністрацыйна арыштаваным; падпісанне Рэспублікай Беларусь факультатыўнага пратакола да Канвенцыі ААН супраць катаванняў.

Каб паглядзець, чаго ж удалося дабіцца праваабаронцам у гэтых накірунках, варта зазірнуць на старонку „Нашы дасягненні". Згодна пададзенай там інфармацыі, пакуль праваабаронцы толькі здолелі прымусіць звярнуць увагу розных ведамстваў на праблему катаванняў і ўнесці артыкулы аб катаваннях у праекты некаторых законаў. Ну, а ці прыме такія законы беларускі парламент, які цалкам залежны ад лукашэнкаўскай адміністрацыі, — вялікае пытанне.

Рубрыка „Палітвязні" адкрываецца толькі ў рускамоўнай версіі і змяшчае звесткі толькі пра трох асоб — Мікалая Статкевіча, Зміцера Бандарэнку і Алеся Бяляцкага. Такі пералік зусім няпоўны, і ўладальнікам сайта яшчэ ёсць над чым працаваць з мэтай яго ўдасканалення.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Скарбы БЕЛАРУСІ

### Ваўкавыскія высі

Ваўкавыск, некалі павятовы, а зараз раённы цэнтр на Гарадзеншчыне, найбольш старажытны горад Беларускага Панямоння знакаміты найперш сваімі археалагічнымі помнікамі. Іх тут налічваецца ажно тры — Замчышча, Муравельнік і Шведская гара. Навукоўцы маюць усе падставы меркаваць, што тут мог бы паўстаць археалагічны музей пад адкрытым небам. Але каб заглыбіцца ў гісторыю, у Ваўкавыску трэба ўзняцца ўгару.

Існуе прынамсі некалькі версій паходжання адметнай назвы Ваўкавыск. Адна з іх была адлюстравана як народнае паданне яшчэ ў 1881 г. — у адным з выпускаў часопіса „Віленскі веснік". Нібыта паселішча атрымала назву ад двух імёнаў — Волака і Вісека — верхаводнікаў мясцовых рабаўнікоў, якія рабілі сваю чорную справу яшчэ ў VIII стагоддзі. Але на кожную сілу заўсёды знойдзецца іншая. Нібыта ў 738 г. нехта Вацілаў Завейка забіў Волака і Вісека і на месцы іх пристанку пабудаваў 10 хацін, тым самым паклаўшы пачатак забудове новага горада. У памяць пра гэтыя падзеі паселенне і было названае „Волака-Выск". Гэтую версію падтрымліваў і святар Дзмітрый Булгакоўскі, які ў 1914 годзе выдаў „Гістарычны нарыс Ваўкавыска".

Паводле іншай версіі горад атрымаў сваю назву ад ракі Ваўкавыя, якая працякае праз места і ўпадае ў раку Рось — левы прыток Нёмана. Рака ж атрымала такую назву таму, што некалі яна цякла праз непралазны лясны зараснік, дзе вадзілася шмат ваўкоў. Ну, а як воўк, то безумоўна вые! На карысць гэтай версіі сведчыць тое, што пазней, калі горад ужо атрымаў пячатку, то на ёй была выбіта воўчая галава. Трэцяя версія выводзіць паходжанне назвы з таго, што некалі горад ляжаў на старажытным волакавым шляху. Яшчэ адна гіпотэза звязвае назву са старажытным народам волахаў, які здаўна займаўся жывёлагадоўляй і жыў далекавата — у паўднёвым Прыкарпацці. Аднак, частка волахаў у X ст. перасялілася разам з дрыгавічамі і валынцамі ў рэгіён Панямоння. Сёння на ўскрайку цэнтральнага пляца Ваўкавыска насупраць універмага ўсталяваны прыгожы помнік ваўку, які безумоўна робіць гораду адметнасць. Ваўкавыскі воўк куды большы за славутую легендарную рымскую ваўчыцу. Зрэшты, як і належыць сапраўднаму беларускаму ваўку.

У даўняй гісторыі Ваўкавыск вядомы тым, што ў XIII стагоддзі ён быў аб'ектам змагання паміж літоўскімі і галіцка-валынскімі князямі, якое скончылася на карысць першых у XIV ст. 16 сакавіка 1410 года горад быў захоплены вялікім магістрам Тэўтонскага ордэна Фрыдрыхам фон Валенродам. Крыху пазней ваўкавыская харугва ў складзе войска ВКЛ адпомсціла за гэта на Грунвальдскім полі.

Іншы яскравы перыяд у гісторыі Ваўкавыска прыпаў на вайну 1812 года, калі ён быў захоплены корпусам генерала Рэнье, а пасля штурму расейскімі войскамі быў амаль цалкам спалены. У сядзібным доме забудовы пачатку XIX ст., які яшчэ называецца домікам Баграціёна, у 1935 г. быў створаны краязнаўчы музей. У другую сусветную вайну яго разрабавалі, а ў 1948 г. аднавілі. У савецкі час цэнтр горада выглядаў блякла, але калі тут праводзіліся Дажынкі, фарбаў пабольшала, змяніўся і цэнтр, значную частку якога займае адзін з самых вялікіх у Еўропе пляцоў.

З вышыні Шведскай гары, дзе ўсталяваны адмысловы геадэзічны знак, добра відаць усё наваколле, як панарама старой часткі з новым праваслаўным саборам і старым касцёлам, так і шэрыя змрочныя карпусы мясцовай калоніі для зняволеных. Перад імі невялікае возера, у якім з вышыні нібыта адлюстроўваецца ўся даўніна старажытнага паселішча.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# У чаромхаўскіх пенсіянераў

Уладзімір СІДАРУК

Фота Уладзіміра СІДАРУКА

Аддзел Саюза польскіх пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе гэта адна з дынамічных арганізацый на Беласточчыне. Налічвае ён чатырыста дваццаць членаў. Старшынёю з'яўляецца Юзаф Дубковіч. Прафсаюзную дзейнасць пачаў ён у 1960 годзе.

— Працаваў я ў паравозным дэпо, — успамінае старшыня Юзаф Дубковіч. — Кар'еру прафсаюзнага дзеяча пачынаў ад пасады сакратара, затым выбралі старшынёю. Дваццаць гадоў заставаўся на гэтай пасадзе. Прафсаюзы тады на чыгунцы мелі станоўчы ўплыў на фармаванне міжлюдскіх суадносін. Былі арганізатарамі грамадскіх пачынаў, удзельнічалі ў культурных мерапрыемствах. Адной з большых імпрэзаў была паездка ў Мілейчычы ў Дзень перамогі і ўскладанне вянкоў на магільніку савецкіх салдат, першамайскія шэсці, адзначанне Дня чыгуначніка. Апрача прафсаюзнай дзейнасці мне выпала на долю ўзначальваць Таварыства польска-савецкай дружбы. Быў я членам ваяводскага праўлення. За грамадскую дзейнасць у ТПСД атрымаў залаты значок, а ўручала мне ў Варшаве касманаўтка Валянціна Церашкова. Узнагароджаны я Крыжам кавалерскім Ордэна адраджэння Польшчы, сярэбраным і залатым значкамі „Заслужаны Беласточчыне", такімі ж значкамі „Перадавы чыгуначнік" ды шматлікімі ганаровымі граматамі.

— А што можаце сказаць пра цяперашнюю арганізацыю пенсіянераў?..

— Кіраўніцтва ў аддзеле Саюза польскіх пенсіянераў і інвалідаў пераймаў я ад Казіміра Сцяхуры ў 1984 годзе. Гмінная арганізацыя лічыла тады семдзесят чатырох членаў. Маёй падпорай у арганізацыі стала даўнейшая сяброўка па рабоце Валянціна Верамчук, якая выконвала абавязкі скарбніка. Лік членаў з кожным годам павялічваўся і зараз дасягнуў больш за чатырыста чалавек. У нашай гміне адно ў Апацы-Вялікай няма гуртка пенсіянераў. Даўнейшыя, а было каля пяці членаў, адышлі з жыцця. Зараз няма з кім гаварыць, — канстатуе Дубковіч. — У мінулым годзе арганізацыя павялічылася на дваццаць чатыры асобы, у гэтым годзе — на дзевяць. Найбольш шматлікімі ў гміне з'яўляюцца гурткі ў вёсцы Чаромсе і Кузаве (больш за паўсотні членаў), самы актыўны — гурток у Баброўцы. Пенсіянеры з гэтай вёскі ахвотна ўдзельнічаюць у ладжаных намі мерапрыемствах. Самай папулярнай імпрэзай лічыцца танцавальная вечарына. У мінулым годзе арганізавалі такіх пяць. Сённяшняя забава завяршае перыяд Каляд і Новага года, таму назвалі яе наваголняй. Летам будзем адзначаць свой юбілей. Тады таксама пагуляем...

Наваголнюю імпрэзу, якая адбылася 28 студзеня, не лічу ўдалай. Удзельнічала ў ёй усяго шэсцьдзесят пяць асоб. На так шматлюдную арганізацыю гэта вельмі мала. З запрошаных гасцей у мерапрыемстве ўдзельнічалі войт Юры Шыкула, святары Чаромхаўскага прыхода а. Мікалай Беламызы з матушкай і Кузаўскага прыхода а. Грыгорый Навумчук з матушкай. Ігралі браты Бароны, музыканты з Тапаркоў, а ўспамагаў іх чаромхаўскі музыка Юзік Каліш. Саюз забяспечыў ласункі, напіткі і фрукты, а пра апошняе задбалі ўдзельнікі забавы. Нягледзячы на невялікую колькасць удзельнікаў, забава была супер!.. У час перапынку паміж танцамі гучалі песні. Вёскі сапернічалі ў напевах паміж сабою. Калі выявілася, што Марк Радзікоўскі адзначае свой дзень нараджэння, музыканты пераказалі яму юбілейныя віншаванні і разам з публікай праспявалі „Сто лят". Затым Раіса Баярунец выканала некалькі песень у знак прызнання юбіляру: „Судьба", „Смуглянка" і „Кацюша", за што атрымала шмат бурных апладысментаў.

Я пакідаў кампанію перад пятай гадзінай вечара. Забава раскручвалася. Але каму ў дарогу, таму час. Так было ў маім выпадку. Затым да наступнай імпрэзы!..

# Варта запамятаць...

Міністэрства сельскай гаспадаркі паведамляе, што селянін можа хадайнічаць за зварот акцызнага падатку ПДВ (VAT) за дызельнае паліва. Дзеля гэтага трэба прад'явіць фактуры.

Земляроб, які купляў паліва ад 1 верасня 2011 г. да 31 студзеня 2012 г. падае заяву войту або бурмістру ( у залежнасці, дзе знаходзіцца поле) у тэрміне ад 1 да 29 лютага. Сяляне, якія купяць паліва ад 1 лютага да 31 ліпеня 2012 г. абавязаны прад'явіць заяву (з далучанымі фактурамі) войту або бурмістру ў тэрміне ад 1 да 31 жніўня 2012 года. Адначасова паведамляецца, што стаўка акцызнага ліміту на бягучы год вызначаецца ў памеры 81,70 зл. на адзін гектар сельскагаспадарчых угоддзяў.

(ус)

# СПАЧУВАННІ

Словы спачування для нашай сяброўкі Іаанны Вап і яе сям'і з прычыны напаткаўшага яе гора, смерці бацькі **СТАНІСЛАВА**

Выказваюць сябры.

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — іспанскую пагаворку.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | | 10 | | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | 15 | 16 | 17 | | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | 22 | 23 | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |

1. напр. марафон = 24 _ 23 _ 20 _;
2. бітва = 1 _ 2 _ 3 _;
3. колішняя партугальская калонія на захадзе Індыі = 13 _ 14 _ 9 _;
4. мангольская пустыня = 8 _ 7 _ 6 _ 10 _;
5. бабовая расліна (*Glycine*) = 4 _ 19 _ 5 _;
6. нос у слана або тапіра = 15 _ 17 _ 18 _ 12 _ 11 _;
7. грашовае выражэнне вартасці тавару = 28 _ 29 _ 22 _ 21 _;
8. псеўданім Іосіфа Броза, югаслаўскага палітыка = 27 _ 26 _ 16 _ 25 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 2 нумара**

Алей, боль, газа, датацыя, Лена, паз, шэпт.

Рашэнне: **Забыць злое, гэта найлепшая адплата**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

# 12.02 — 18.02

**(22.03. — 20.04.)** Не будзеш баяцца нічога — ані новых выклікаў, ані нестандартных рашэнняў. Шукай паразумення, калі ты нават няздольны да кампрамісаў. Шматлікія кантакты са знаёмымі, мо схочацца наведаць іх і за мяжой. Паявяцца дасканалыя перспектывы добра падзарабіць.

**(21.04. — 21.05.)** Рамантычны настрой. Атмасфера на працы мілая, як у сям'і. Усмешкі шчасця. Ды 13-17.02. некаторыя планы могуць не ўдацца — пакінь сабе адкрытую фортачку на ўсякі выпадак. Старайся здаравей жыць; лепш пазбягай благога, чым каб пасля лячыцца!

**(22.05. — 22.06.)** Пасля 14.02. сваю амбіцыю і энергію засяродзіш на вырашанні прафесійных праблем; усё пойдзе хутка і лёгка. 11-15.02. зрэалізуеш свае амбіцыі і пераадолееш перашкоды; магчымае павышэнне на працы. З 16 (да 20.02.) — кемлівасць, інтуіцыя; шмат дасягнеш, ніхто цябе не ўвядзе ў зман. У другой палове месяца з'яднаеш да сябе людзей, іх давер, павагу. Паявяцца прапановы, якіх ты доўга чакаў.

**(23.06. — 23.07.)** Выступай публічна, бяры голас у важных справах, не бойся сказаць „не". 14-18.02. адкрыюцца перад табою новыя шанцы, сустрэнеш цікавых асоб, а ўсе змены акажуцца вельмі карыснымі. Найлепшыя дні на працы — 16-20.02.: куй жалеза пакуль гарачае; знакаміта і ў фінансах, асабліва ў сямейным бізнесе. Ды 12-16.02. зважай на асобы, якія гатовы памагчы табе па-мядзвежы; вядзі сябе далікатна і асцярожна.

**(24.07. — 23.08.)** Слабейшая фізічная форма, лёгка можаш заразіцца ці прастудзіцца. Будзеш гатовы да адданасці, ды дойдзеш да высновы, што варта тупнуць (твая рашучасць зробіць уражанне, толькі не пападай у ярасць!). Будзеш душой кампаніі і каралём кожнага балю. Грошай прыбудзе, хоць будзеш мець лёгкую руку да іх расходавання.

**(24.08. — 23.09.)** Больш будзеш думаць аб іншых, нават занядбоўваючы ўласны інтарэс. У пары добры час да канца месяца. 11-15.02. пачнеш урэшце збіраць плён сваёй працы. Не пакіне цябе добры настрой, зрэалізуеш свае амбіцыі. 14-18.02. прадбачваюцца новыя шанцы, а твае дзеянні прынясуць удалыя рэзультаты, усё стане прасцейшым. Ды з 14.02. магчымыя расчараванні ў каханні; слухай голасу розуму.

**(24.09. — 23.10.)** У лютым для цябе важная толькі праца (не будзе лепшых ад цябе!), ды знойдзеш час і на добрую забаву. Не будзеш наракаць на папулярнасць. Пачнеш лепш дбаць аб сябе, больш аб здароўе, а не красу. Ды пільнуйся: цяпер можаш стаць ахвярай маніпуляцыі; не рабі нічога, да чаго не маеш унутранага пераканання.

**(24.10. — 22.11.)** Абмінай ныцікаў і злоснікаў. Не будзеш гнацца за грашом, ды трапяцца нагоды заробку. З 16.02. (да 20.02.) будзеш вельмі пасяховы і ўнушальны, ніхто табе не супрацівіцца. Можаш хораша схуднець, паварушыўшыся. Ды 12-16.02. можаш павесці сябе як слон у пасуднай краме і пакрыўдзіць мілую асобу.

**(23.11. — 22.12.)** 14-18.02. зоркі памогуць табе заззяць інтэлігентнасцю, кемлівасцю, самаўпэўненасцю. Не будзеш цяпер закампанейскі, ды і часу з сям'ёй не палічыш страчаным. „Валянцінкі" правядзеш вельмі рамантычна. Будзеш тытанам працы і зможаш зрабіць вельмі многа (мноства прапаноў!), але творча. Могуць адчыніць табе дзверы ў кар'еру!

**(23.12. — 20.01.)** 11-15.02. пакажаш свой здаровы розум; знакаміты час на сур'ёзныя размовы і разумныя рашэнні. Хопіць табе адчаю і зробіш тое, аб чым заўжды марыў. Нагоды для саліднага заробку. Самотны Казярог можа перажыць бурлівае каханне.

**(21.01. — 19.02.)** Удадуцца падарожжы. Знакамітае здароўе. Твае акцыі ідуць увысь, дык не хавайся па кутках. Не скромнічай! Маеш свае 5 хвілін, дык карыстайся!

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш баявіты, рашучы і адкрыеш у сабе рысы правадыра. Выкараскаешся з усялякіх клопатаў і аформіш кожную, нават немагчымую справу. Ды 14-18.02. канфлікт з шэфам вісіць у паветры; нічога не каменціруй!

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.


Царква ў Кленіках

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# І старое, і новае

**Завіталі да нас крыху прызабытыя лютыя маразы. І падарожжа ў нашу глыбінку стала не так назіраннем за гэтай глыбінкай, як відам своеасаблівага спаборніцтва з выклікамі надвор'я. Ужо з акон аўтобуса было відаць праявы марознай магутнасці, бо Нарва ў Нарве была ўжо ўся скаваная ільдом. З аўтобуса злез я на прыпынку Рэпіскі і той жа люты мароз зараз узяўся скоўваць і мяне. Як прынялося меркаваць, найлепшай абаронай бывае наступленне, а больш агульна кажучы — рух. Вось і рушыў я шпарка, каб грэцца, каб не дацца марозу.**

Рушыў я ў напрамку Кавялы. Невялікая гэта вёска, і здавалася б з аддалення, што цяпер там можа быць тугавата... Амяла на высокіх дрэвах у кантрастным ад марозу краявідзе набрала чорнага колеру і здавалася, што яна павісла над забудовамі быццам вялікія груганы. Але з набліжэннем да вёскі паказаліся адзнакі буйнага ў ёй гаспадарання. А ў самой вёсцы, на вуліцы пры адным з панадворкаў стаяла невялікае снегавое іглу, якое паказвала, што ў вёсцы расце маладое і творчае пакаленне. Праўда, амаль палова хат у Кавяле пустуе, аднак шмат з іх стаіць побач новых на тых жа саміх панадворках — вяскоўцы паставілі новыя хаты, а гэта абазначае, што перад Кавялой будучыня.

Падобная карціна і ў недалёкіх Новінах, таксама невялічкай вёсцы. Перад Новінамі футбольная пляцоўка з дзвюма брамкамі на канцах і дзвюма лаўкамі па баках, для публікі. І ў гэтай вёсцы крыху хат пустуе, а найбольш сумны від паказвае вялікі пусты дом на канцы вёскі.

Лапухоўка з боку Ласінкі вітае наведвальніка шырока раскінутымі флігелямі былой калгаснай аборы, можна так


Крыжы ў Тыневічах-Малых

адчуць нейкую гасціннасць. Такіх збудаванняў на нашай тэрыторыі шмат і яны ў сваёй большасці пустуюць. А гэта ж кавалак нашай мясцовай гісторыі, мо невялікі, але след у краявідзе па сабе пакінуў. Зараз у нас пэўная разнавіднасць моды на мясцовую старыну, толькі тая старына для паказвання яшчэ не дакацілася да 1950-х гадоў. Калі б так у якім такім посткалгасным будынку наладзіць музей мясцовай калгаснай спадчыны... У Кітаі такое штось задумалі, адно не пра пачаткі калгасаў, а пра іх мадыфікацыю. Там менавіта ў адной з вёсак быццам знайшлі дакумент, у якім калгаснікі на схіле 1970-х гадоў дамовіліся патаемна падзяліць паміж сябе супольную тады зямлю, абрабляць яе сем'ямі, патрэбны аброк аддаваць дзяржаве, а рэшту ўраджаю пакідаць сабе; гэта мела даць вельмі станоўчыя вынікі і чыны, якія гэта пабачылі, зарэкамендавалі такое гаспадаранне ўсяму Кітаю. Дакумент той, тады вельмі крамольны, яго падпісанты быццам глыбока схавалі ў зямлю, а цяпер яго быццам абнародавалі. Цікава, ці ў нас, у нашай краіне, дзе быў час разбурання амаль усяго, што нагадвала тую эпоху, быў бы магчымы такі ўспамін, такая разнавіднасць музея, з нейкімі дакументамі пра раскулачванне, пра тадышнія распраўы з кандыдатамі ў ворагаў народа...

У Лапухоўцы стаіць цэментная стэла з крыжам і арыгінальным надпісам: „Сьлюбуем верность Богу, кресту и Евангелию", пастаўленая ў 1956 годзе. Паміж Лапухоўкай і Тыневічамі-Вялікімі лясок больш-менш з геркаўскай эпохі, калі вяскоўцы рванулі ў гарады.

Тыневічы-Вялікія крыху задзіўляюць сваёй планіроўкай; там быццам калісь вызначылі простую вуліцу, але з ростам вёскі яна стала зацеснай і выгнулася. За крамай зацікавіў мяне даволі вялікі пусты будынак з чырвонай цэглы, а перад ім канторка і ўязная брама на абгароджаную тэрыторыю, у глыбі якой бачны будынак характэрны для колішняга калгаснага будаўніцтва. Па даведку падаўся я ў краму, меншую „майсенеўку" з крыху прыпаднятым дахам. У краме, апрача прадаўшчыцы, было яшчэ траіх мужчын. Паінфармавалі яны мяне, што той калгасны аб'ект быў купіў чалавек ад Орлі, але зараз хоча яго прадаць. Пра раз'езджаны ў снезе трактарны след сказалі мне, што ў апошняй аборы ўласнік трымае кароў. Калгасных будынкаў за Тыневічамі-Вялікімі шмат, вялікае там мела быць гаспадаранне.

У Кленіках галоўныя грамадскія ўстановы ў цэнтры вялікай вёскі, а гэты цэнтр каля царквы. Тут і крама, невялікая. Насупраць крамы пажарнае дэпо з вясковай святліцай, перад будынкам акуратны помнік чырвонаармейцам; у Кленіках ёсць яшчэ і другі помнік чырвонаармейцам — ён пры расходных дарогах — пры дарозе ў Гародчына, пры мураванай капліцы з 1870 года. А за святліцай, крыху прыхаваны ад вуліцы чарговы ў нашым старонні будынак, даволі яшчэ новы, які на падабенства старых посткалгасных зеўрае пустымі аконнымі праёмамі, а за ім жылыя блокі. Акурат адтуль выйшла жанчына крышку вытрасці свае палавічкі. Яе я і спытаў пра тое загадкавае збудаванне побач. І даведаўся я, што там меў быць вясковы асяродак здароўя, будынак пакрылі ў 1995 годзе; пакрылі і пакінулі. Якія ўлады пачалі гэтую будоўлю, а якія пакінулі, гэтым ужо я не цікавіўся. Цяпер жыхары Кленік карыстаюцца амбулаторыяй у гмінных Чыжах ды і два разы ў тыдзень прыязджае ў вёску лекар, які прымае ў будынку былой школы. А блокі былі пабудаваны працаўнікам мясцовага пэгеэра, які быў закладзены на месцы ранейшага калгаса... Незакончаным будынкам амбулаторыі быў цікавіўся і мясцовы настаяцель з мэтай прызначэння яго на дом для састарэлых. Калі я заўважыў, што ў прыходзе ўжо адна такая ўстанова ёсць, мая субяседніца адказала, што ён аж у Кожыне, а ў Кленіках шмат пажылых людзей і ім было б зручна дажываць у сваёй вёсцы...

Кленікі, так як і шмат іншых нашых вёсак, апынуліся цяпер на свайго роду камунікацыйным адчужэнні — справа ў тым, што аўтобусы публічнай камунікацыі з'яўляюцца туды пасля поўдня — паводле раскладу — каля чацвёртай гадзіны; адзін у напрамку Нарвы і адзін у Бельск. І каб выбрацца з Кленік у поўдзень — а не чакаць жа чатыры гадзіны на лютым марозе — трэба карыстацца тым натуральным транспартам, якім карысталіся нашы адлеглыя продкі. Найзручней падалося мне накіравацца ў Плёскі, цераз Лешчыны, Гукавічы і Кожына. Ва ўсіх гэтых вёсках, ад Кавялы да Плёскаў, можна пабачыць шмат хат характэрнага мясцовага дойлідства. Праўда, у шматлікіх мясцовасцях выступае архітэктурны разнабой, але ва ўсіх іх ёсць па некалькі будаўнічых жамчужын, тых дбайна аздобленых скарбаў, пакінутых колішнімі майстрамі мастацкай насалодзе наступным пакаленням. І гаспадаранне тут не звялося — можна там пачуць не толькі пах гною, але і курыныя галасы, пра сабак, вядома, не згадваючы. І яшчэ адна асаблівасць — у некаторых мясцовасцях — Тыневічах-Малых, Кленіках, Плёсках — каменныя валуны рэлігійнага прызначэння з палові 1860-х гадоў.

Згортваецца вясковы гандаль. На маім шляху былі толькі тры невялікія крамы, у найбольшых вёсках — Тыневічах-Вялікіх, Кленіках і Плёсках. Цяпер гандаль мабільны — у Плёскі прыязджае тры аўтакрамы ў дзень, да таго ж — пад самую хату. Калі пра апошнюю вёску мова, то там пабачыў я своеасаблівы рэстаран на тамашняй эстрадзе. Наведвальнікаў у ім ужо не было, адно шкло на стале асталося, але з пакінутага можна было адначыць ход ранейшага застолля: фольк сілкаваўся амаль як у Шолахава — не закусваў ён ні пасля першага, ні пасля чарговых; народ цяпер запівае.

У Плёсках зацікавіла мяне, ці хто яшчэ ходзіць у напрамку моста на Нарве, таму і падаўся я туды побач рэліктаў колішняга тамашняга калгаса. І насупраць


На вуліцы ў Тыневічах-Вялікіх

яго, і далей, паказаліся новыя ў наш час элементы мясцовага краявіду — развешаныя на полі банэры пра тое ж поля продаж. Можа дзеля набыцця таго поля продкі цяперашніх гаспадароў неслі ў суд апошнія грошы, а цяпер нашчадкі тыя грошы вяртаюць сабе — так працуе адмысловы банкаўскі перавод з пакалення ў пакаленне. А сцежка цераз лес да згаданага моста яшчэ захавалася, хаця ўжо кволая.


ISSN 0546-1960